№2(215)
2017г.
люты

# ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Краязнаўчая газета
Выдаецца са жніўня 1996 г.
Кошт свабодны

*Рэдакцыя газеты*
*"Гоман Барысаўшчыны"*
*віншуе жыхароў Лошніцы і ўсіх, хто неабыякавы да гісторыі краю, з 390-годдзем надання (22 лютага) гэтаму старажытнаму мястэчку прывілея Жыгімонтам Вазай!*

## *Калі была пабудавана царква, што стаіць па Газетным завулку? Адказ знойдзены?!*

*Гэта пытанне на працягу больш ста гадоў не раз уздымалася даследчыкамі гісторыі нашага краю. Аднак адназначны адказ на яго не быў знойдзены. Дакументы, якія атрымалася адшукаць апошнім часам, дазваляюць (як мы спадзяемся) паставіць кропку (магчыма, дакладней будзе сказаць шматкроп'е) у гэтым пытанні. Але пры гэтым ставяць перад намі некалькі іншых, не менш складаных і заблытаных.*

Нагадаем, што гэта царква (якая яшчэ ў сярэдзіне XX стагоддзя была праваслаўнай Андрэеўскай, зараз – стараабрадская) знаходзіцца там, дзе ў былыя часы знаходзіўся праваслаўны мужчынскі Васкрасенскі манастыр. Па меркаванні архімандрыта Мікалая, які ў сярэдзіне XIX стагоддзя даследаваў яго гісторыю, гэта – адзін з найстарэйшых праваслаўных манастыроў на Беларусі. Пасля яго закрыцця ў XVIII стагоддзі гэтае месца (дакладней, яно разам з былымі манастырскімі могілкамі) стала гарадскімі праваслаўнымі могілкамі. Як ужо зразумелі нашы чытачы, на працягу XX – пачатку XXI стагоддзя час пабудовы царквы, якая стаіць на гэтым месцы, нікому вызначыць не атрымлівалася. Вядома, што на пачатку XX стагоддзя яна ўжо існавала працяглы час і была пабудавана не пры жыцці тых пакаленняў, якія тады жылі ў нашым горадзе.

У вядомым выданні Клейна, Даўгялы, Белацаркоўца "Горад Барысаў", якое ўбачыла свет у 1910 годзе, аўтарамі на падставе аналізу стылю збудавання выказвалася меркаванне, што час пабудовы гэтай царквы мусіць быць аднесены да XVII стагоддзя. У нашай газеце на падставе аналізу розных гістарычных крыніц выказвалася думка, што найбольш верагодным часам яе пабудовы з'яўляецца прамежак паміж 1620-1648 гадамі. Існуюць і іншыя меркаванні. Аднак выказванні пра час пабудовы царквы ў другой палове XIX – пачатку XX стагоддзя мусяць быць адкінуты адразу з-за іх неабгрунтаванасці. Найперш, з-за таго, што ў 1910 годзе гэта маглі б згадаць старажылы (што б знайшло адлюстраванне ў згаданай вышэй кнізе "Горад Барысаў"), па-другое, стыль пабудовы царквы ў гэтым выпадку быў бы зусім іншым (гэта была б так званая "мураўёўка"). Да таго ж і самі дакументальныя аргументы такіх версій не вытрымліваюць крытыкі.

Такім чынам, што новага атрымалася адшукаць у гэтым пытанні? Трэба адзначыць адразу, што непасрэднай архіўнай справы, якая б датычылася яго, няма. Аднак ёсць іншыя, у якіх прыводзяцца вельмі важныя для нас звесткі пра яе. Так у 20-х гадах XIX стагоддзя праваслаўнай царквой было прынята рашэнне хаваць нябожчыкаў толькі пасля трохдзённага тэрміну пасля таго, як людзі сыходзілі з жыцця. Пры гэтым паўстала пытанне, дзе іх захоўваць гэты час. У дамах у летнюю спёку гэта (з-за пытанняў распаўсюджвання хваробаў і інш.) рабіць было немагчыма. Святары пакідаць на тры дні целы былых сваіх прыхаджан не дазвалялі. Таму вернікі былі пастаўлены перад амаль невырашальнай праблемай. Каб яе нейкім чынам вырашыць, прыхаджане барысаўскай Васкрасенскай царквы паспешна (гэта было зроблена за раніцу аднаго з днёў) перавезлі з іншага месца на гарадскія могілкі старую капліцу, дзе б можна было захоўваць целы і праводзіць адпаведныя набажэнствы. Аднак пры гэтым з-за спешкі і недастатковага ведання царкоўных акалічнасцяў, было штосьці ўпушчана. У выніку наконт атрымання дазволу (па царкоўнай лініі) на ўстанаўленне капліцы на могілках паўсталі сур'ёзныя пытанні. Каб іх вырашыць, прыхаджане барысаўскай Васкрасенскай царквы 1 ліпеня 1827 года пішуць прашэнне на імя архіепіскапа Менскага і Літоўскага Анатоля (яно захоўваецца ў фондах Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі). Сярод тых, хто падпісаў прашэнне, ёсць подпісы не толькі царкоўнага старасты, але і сябраў гарадскога магістрата, іншых вядомых у горадзе асоб.

Прашэнне было аператыўна разгледжана, і 3 ліпеня быў атрыманы дазвол на ўстаноўку на барысаўскіх могілках для часовага захавання целаў нябожчыкаў перавезенай з іншага месца капліцы.

Што ў гэтым дакуменце важна зараз для нас і для высвятлення часу пабудовы Андрэеўскай царквы? Справа ў тым, што ў прашэнні гаворыцца, што капліцу мяркуецца ўстанавіць на могілках (прычым менавіта былых манастырскіх; такім чынам магчымасць разгортвання "падзеяў" на могілках на Барку адпадае адразу) ля царквы, якая была ў свой час пастаўлена гараднічым Шаталавым.

*(Працяг на стар. 3)*



## Выстава да 60-годдзя мастака

*27 студзеня ў Доме-сядзібе І.Каладзеева была ўрачыста адкрыта і распачала сваю працу выстава тутэйшага мастака Андрэя Мірзаяна.*

Нягледзячы на тое, што А.Мірзаян шмат разоў выстаўляўся на розных гарадскіх, абласных і рэспубліканскіх выставах, дадзеная выстава з'яўляецца ў яго творчым жыцці першай персанальнай. Яна – своеасаблівы яму падарунак (адкрыццё выставы праходзіла ў дзень яго 60-годдзя).

*Андрэй Мірзаян.*

А.Мірзаян з'яўляецца вельмі своеасаблівым мастаком. Ён практычна адзіны ў горадзе творца, які працуе з берастой. Менавіта работы з гэтым матэрыялам прадстаўлены на выставе. На большасці з іх адлюстравана прырода. Знайшлося ў творах мастака месца відам Барысава, асобных гістарычных помнікаў Беларусі. Гарманічным дапаўненнем да прац А.Мірзаяна на выставе з'яўляюцца некалькі работ яго бацькі – вядомага ў Барысаве мастака Сурэна Мірзаяна (пераважна акварэлі).





*Работы А.Мірзаяна на берасце.*

А.Мірзаян – асоба разнастайная. Ён таксама займаецца разьбой па дрэву, чаканкай, працамі са шкуры і інш. Яго творы знаходзяцца ў прыватных калекцыях у Расіі, Украіне, у Нямеччыне, Фінляндыі, Канадзе, Ізраілі. Удзельнічае ён і ва ўніфармісцкім руху. Пра апошняе на выставе распавядае невялікі куток, дзе прадстаўлена яго ўніформа, амуніцыя, узнагароды за ўдзел у ваенна-гістарычных фестывалях.

Выстава, якая адкрылася 27 студзеня і з якой зараз маюць магчымасць пазнаёміцца барысаўцы і госці горада, наўрад ці каго зможа пакінуць абыякавым.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

# Ад нумара да нумара

***Візіты***

*На калядныя святы Звяз палякаў Барысаўшчыны і непасрэдна Дом польскі наведаў кіраўнік консульства Рэспублікі Польшча ў Менску Марэк Пэндзік. Ён прыняў удзел у калядnай імпрэзе, якую ладзілі сябры Звязу, уручыў дзецям навагоднія падарункі. Напрыканцы візіту адбылася шчырая размова са старшынёй Звязу палякаў Барысаўшчыны пані Алай Ніціеўскай, сябрамі Рады аб далейшай дзейнасці мясцовай польскай супольнасці.*

* * *

*У межах афіцыйнага візіту ў Беларусь, які праходзіў з 9 па 12 студзеня, міністр абароны Сербіі Зоран Джорджавіч наведаў барысаўскае прадпрыемства "2566 завод па рамонту радыёэлектроннага абсталявання" (так званы "Чортаў мосцік"), дзе азнаёміўся з прадпрыемствам, магчымасці супрацоўніцтва.*

* * *

*17 студзеня на Барысаўшчыне знаходзіўся міністр-каардынатар па справах бяспекі Рэспублікі Эквадор Сесар Навас. Ён наведаў Інстытут перападрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі ў пасёлку Светлы Гай.*

*Візіт праходзіў у межах афіцыйнай паездкі міністра ў Рэспубліку Беларусь, яго знаёмства з Універсітэтам грамадзянскай абароны МНС Беларусі, чыім філіялам і з'яўляецца згаданы вышэй інстытут.*

***Перамога***

*4 студзеня ў Менску прайшла цырымонія ўзнагароджання пераможцаў XX Рэспубліканскай выставы-конкурсу дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва дзяцей і моладзі "Калядная зорка". Узрост яе ўдзельнікаў складаў ад 8 да 16 год. Сярод пераможцаў конкурсу былі трое барысаўцаў. У намінацыі "Паштоўка-віншаванне" дыплом першай ступені атрымала Марыя Мароз (Цэнтр творчасці дзяцей і моладзі, педагог Таццяна Зыранава). У намінацыі "Інтэр'ерная паштоўка" дыплом першай ступені атрымалі Вікторыя Крупская і Анастасія Шалайка (СШ №7, педагог Ала Машкетава). У намінацыі "Тэкстыль" дыплом трэцяй ступені атрымала Таццяна Ліпская (Цэнтр творчасці дзяцей і моладзі, педагог Ірына Платонава).*

***Свята***

*13-14 студзеня на Барысаўшчыне прайшло шмат мерапрыемстваў, якія звязаны з традыцыямі калядавання. Гэта былі як тэатралізаваныя прадстаўленні ў дамах культуры і клубах (у Старабарысаве, Перасадах і ў іншых месцах), так і непасрэдна калядаванне (у Вяляцічах і шмат дзе яшчэ).*

***Прэзентацыя***

*25 студзеня ў Менскім абласным цэнтры народнай творчасці прайшла прэзентацыя альбома "Рукою мастера (Творчество художников Минщины)", які ўбачыў свет напрыканцы мінулага года ў выдавецтве "Звязда". У ім прадстаўлены працы 50 творцаў, у тым ліку прадстаўнікоў Барысаўшчыны: мастакоў Валерыя Шкарубы, Міколы Рыжага і скульптара Анатоля Арцімовіча.*

***Сход***

*29 студзеня адбыўся справаздачна-выбарчы сход суполкі Звязу палякаў Барысаўшчыны. Пасля кароткай справаздачнай інфармацыі адбылося яе абмеркаванне. Разгледжаны арганізацыйныя пытанні. Абраны новы склад рады на чале з пані Алай Ніціеўскай.*

**Служба інфармацыі "ГБ"**

# "Ад прадзедаў спакон вякоў нам засталася спадчына..."

*2017 год – год 135-годдзя народнага песняра Янкі Купалы. Для захавання памяці пра яго, ушанавання яго заслуг перад беларускім народам, несумненна, будуць праведзены самыя розныя мерапрыемствы, імпрэзы, выставы, канферэнцыі, выйдуць новыя кнігі... у многіх краінах свету. І, вядома, найперш у Беларусі. Зрэшты, старт святкаванню года Купалы ўжо дадзены: у Дзяржаўным літаратурным музеі Я.Купалы прайшла імпрэза даравання партрэта песняра работы рускага мастака Івана Паўлава.*

Прыемна ўсведамляць, што і наш родны Барысаў не застаўся ўбаку ад ушанавання славутага беларуса.

12 студзеня ў мастацкай галерэі "З'ява" адкрылася выстава "Ад прадзедаў спакон вякоў нам засталася спадчына...", якую ладзіла ўзорная мастацкая студыя "Палітра", што базіруецца ў вучэбна-педагагічным комплексе яслі-сад-школа № 24.

Усіх, хто пажадаў наведаць імпрэзу, сустракалі чароўныя гукі народных мелодый, класічных твораў і сучасных кампазіцый. Нараджаліся гэтыя гукі воляй і ўмельствам музыкантаў двух школьных калектываў "Калейдаскоп" (кіраўнік Жана Шакавец) і "Фантазёры" (кіраўнік Наталля Крыгіна).

А перад вачыма прысутных запанавала раскоша колераў, выяў, вобразаў, кампазіцый...

Калі ж гаварыць больш канкрэтна, то на выставе прадстаўлены графічныя, жывапісныя работы, адметныя кампазіцыі, роспіс па шклу, паштоўкі, якія выкананы ў самых розных тэхніках.

І ўсё гэта плады творчасці ўдзельнікаў студыі "Палітра", якой ужо 20 гадоў кіруе Марыя Ржэуцкая, добрасумленны, творчы, адданы сваёй справе педагог.

Арыгінальным (разам з тым лагічным) было рашэнне адкрыць выставу чытаннем верша Я.Купалы "Спадчына", які па-майстэрску прадэкламавала супрацоўніца галерэі Анжэла Кудакова. А яшчэ яна прыгадала ўсе тыя сумесныя мастацкія праекты, што на працягу некалькіх гадоў былі праведзены школай і бібліятэкай.

Са словамі віншавання з Новым годам і Калядамі, пажаданнямі дабра выступіла дырэктар бібліятэкі Галіна Слесарэнка. Яна падзякавала тым педагогам, якія шчодра перадаюць сваё майстэрства, якасці душы дзецям. Запэўніла ў падтрымцы любой творчай ініцыятывы.

Дырэктар школы №24 Наталля Белікава падзякавала за магчымасць падзяліцца творчымі набыткамі навучэнцаў з жыхарамі горада, за падтрымку ў рэалізацыі новых творчых праектаў. Выказала думку, што, любуючыся творамі мастацтва, мы разумеем: у жыцці многа цудоўных момантаў, якімі трэба даражыць. Павіншавала прысутных з Раством Хрыстовым, пажадала Божай ласкі, спагады.





*На адкрыцці выставы (злева).*

*"Каляда, каляда – адчыняй варата!" (зверху). Роспіс па шклу. Сумесная праца навучэнцаў 9 класа.*

Марыя Ржэуцкая, выслухаўшы цёплыя словы падзякі за творчасць, атрымаўшы ў падарунак цудоўную ружу, распавяла, што галоўная мэта стварэння студыі – развіццё творчага патэнцыялу вучняў, прапаганда мастацкай культуры, фарміраванне эстэтычных пачуццяў. Адзначыла, што пры падборы тэм, твораў кіруецца, перш за ўсё, высокамастацкім зместам твораў, актуальнасцю тэматыкі, ступенню эстэтычнага і маральнага ўздзеяння. З задавальненнем падкрэсліла, што работы ўдзельнікаў студыі вызначаюцца высокім узроўнем выканальніцкага майстэрства. А паказчыкам гэтаму з'яўляецца высокая ацэнка прафесіяналаў. Зрэшты, 400 дыпломаў за 20 гадоў дзейнасці студыі – яскравае сведчанне гэтаму.

Для ўдзельнікаў выставы была наладжана экскурсія ў карцінную галерэю Валерыя Шкарубы.

Гэта становіцца ўжо добрай традыцыяй.

**Іван Белы**

# Становіцца добрай традыцыяй

*Такую думку выказала бібліятэкар Людміла Ціхановіч, адкрываючы чарговую творчую сустрэчу з нашым земляком, паэтам Аляксандрам Быкавым. У сціслай форме яна нагадала асноўныя даты жыцця і творчасці госця з Мядзеля (там ён жыве з 1985 года). Прыняла цікавыя факты аб узнагароджанні медалём "За працоўную адзнаку", аб рэгулярных занятках спортам (футболам, марафонскім бегам)...*

На гэты раз ладзілася прэзентацыя новага зборніка яго паэзіі "І тым не менш...", шостага ў яго творчай скарбонцы.

Віноўнік культурніцкай імпрэзы выказаў задавальненне ад таго, што на сустрэчу з ім на гэты раз прыйшлі вучні СШ №11, якую ён у свой час скончыў. (Дарэчы, на прэзентацыі прысутнічалі і вучні СШ №3, сябры, родныя, знаёмыя паэта, супрацоўнікі бібліятэкі). Пасля А.Быкаў патлумачыў, што да рашэння пісаць па-беларуску прывялі наступныя жыццёвыя абставіны: стаў жыць на радзіме Максіма Танка, працаваць у беларускамоўнай газеце.

Прачытаў і з гумарам пракаментаваў некалькі вершаў і эпіграм з новага зборніка, адказаў на пытанні прысутных. У прыватнасці, на пытанне пра свой літаратурны дэбют, пра ўдзел у паседжаннях аб'яднання "Бярэзіна", адказаў, што і спрэчкі, і, перш за ўсё, атмасфера, якая панавала там, і асоба Леаніда Рашкоўскага дабратворна ўплывалі на рост паэтычнага майстэрства. Хоць (ён і гэта таксама адзначыў) былі моманты, калі хацелася махнуць на паэзію рукою. (Дарэчы, свой першы паэтычны зборнік у 1990 годзе падараваў Л.Рашкоўскаму ў знак удзячнасці старэйшаму сябру).



На пытанне аб перспектывах беларускай мове, грунтуючыся на фактах свайго жыцця і творчасці, выказаў стрыманы аптымізм.

А на пытанне, хто, на яго думку, варты стаць лаўрэатам Нобелеўскай прэміі, адказаў, што і быў Рыгор Барадулін, чым выклікаў аднадушную згоду прысутных.

Прыўкрасіла сустрэчу, зноў жа па традыцыі, выкананне пляменнікам Андрэем сваіх песень на словы дзядзькі.

Па завяршэнні сустрэчы жадаючыя сталі ў чаргу за аўтографамі.

**Іван Белы**

# Адзначыліся ў алімпіядзе

*З 9 па 13 студзеня ў Барысаве, Маладзечна, Дзяржынску, Вілейцы, Слуцку, Уздзе ды абласным ліцэі адбыўся трэці этап вучнёўскай алімпіяды.*

Наш рэгіён прадстаўлялі 111 навучэнцаў з 8-11 класаў 21 установы адукацыі. Пераможцамі ды прызёрамі сталі 45 навучэнцаў з 13 устаноў Барысаўшчыны.

Адзінаццаць навучэнцаў атрымалі дыпломы першай ступені, трынаццаць – другой, дваццаць адзін – трэцяй.

Віншуем пераможцаў!

**Міхась Пучыла**

# Тутэйшы кнігазбор

*Напрыканцы 2016 года, які праходзіў пад знакам Вогненнай Малпы, Менскі абласны народны клуб кампазітараў і паэтаў "Жывіца" зрабіў творчы ўнёсак у літаратурна-музычны здабытак краіны. У менскім выдавецтве "Колорград" накладам 82 асобнікі выйшаў у свет 17-ы па ліку калектыўны зборнік паэзіі – на гэты раз гумарыстычных вершаў "Малпа рукі пацірала" (рэдактар – член Саюза пісьменнікаў Беларусі і Расіі Юрась Нераток).*

Традыцыйна з'явіўся і новы музычны кампакт-дыск "Сохрани тепло в душе". Складальнік абедзвюх навінак – кіраўнік клуба, член Саюза пісьменнікаў Беларусі і Беларускага Саюза музычных дзеячоў Ірына Карнаухава. Прэзентацыя кнігі і дыска прайшла сёлета 15 студзеня ў выставачнай зале Мінскай абласной бібліятэкі імя А.С.Пушкіна.

У кнізе, акрамя ўласна гумарыстычных жанраў (баек, гумарэсак, мініяцюр і г.д.), прадстаўлены блізкія: сатыра, іранічная паэзія, пародыі, жартоўныя афарызмы, а таксама эпіграмы і прысвячэнні сваім калегам па літаратурнаму цэху. Напрыканцы зборніка змешчаны конкурсныя вершы ўдзельнікаў клуба на зададзеную тэму: пра рэальную малпу з Бразіліі, якая з-за свайго свавольства патрапіла ў стужку навін (адсюль і назва кнігі).

Сярод 47 аўтараў зборніка з розных куткоў Меншчыны ёсць і барысаўцы: Лёля Багдановіч, Людміла Валасевіч, Валянціна Анкудзінава ды Анатоль Мазгоў – члены Барысаўскага літаб'яднання "Натхненне". Двое апошніх выступілі на прэзентацыі са сваімі вершамі.




*Зборнік вершаў "Малпа рукі пацірала" (справа)*




*і дыск "Сохрани тепло в душе" (злева).*

"Сохрани тепло в душе" – сёмы па ліку музычны дыск "Жывіцы", у які ўвайшлі 23 песні. Адна з іх – "Зорны вальс" (на словы рана сышоўшага паэта з Барысаўшчыны Яўгена Прадзядовіча) належыць барысаўчанцы Валянціне Беланоўскай. Дарэчы, яна таксама выканала яе на вышэйзгаданай прэзентацыі.

**Анатоль Мацвееў,**
**фота аўтара**

* * *




У нашага земляка Давіда Шульмана (цяпер жыве ў г.Эйлаце, Ізраіль) у прыватным прадпрыемстве "Край" (г.Смаленск) накладам у 100 асобнікаў пабачыла свет шостая кніга прозы "Асаблівы жаночы стан".

І ў сваіх ранейшых кнігах аўтар не пазбягаў апісання эратычных сцэн, сітуацый, якія, зразумелая рэч, займаюць важнае месца ў жыцці кожнага. Але на гэты раз ён пераўзышоў сам сябе, сцэны інтымных адносінаў мужчыны і жанчыны набываюць характар чыстай фізіялогіі. Хоць трэба прызнаць, што майстэрства валодання словам у аўтара нікуды не дзелася.

Будзем чакаць новыя кнігі земляка, у якіх застанецца майстэрства і з'явяцца новыя тэмы, вобразы, жыццёвыя сітуацыі.

**Іван Белы**

# Дзень снегу

*Або Міжнародны дзень зімовых відаў спорту быў у пяты раз адзначаны міжнароднай спартыўнай грамадскасцю 14 студзеня.*

На Беларусі гэты дзень адзначаецца ў другі раз. Не адсталі і барысаўцы. Асабліва актыўна правялі спартыўныя мерапрыемствы на снезе навучальныя ўстановы Барысаўшчыны. На гэты дзень былі распрацаваны цэлыя спартыўныя праграмы. Больш за ўсё новае свята запомніцца школьнікам, якія ўволю накаталіся на лыжах і каньках, правялі спаборніцтвы.

**Міхась Пучыла**

# Хакейныя баталіі

*Адбыліся на хакейнай пляцоўцы ліцэя г. Барысава 14 і 15 студзеня. Гэтымі днямі вызначаліся лепшыя каманды раёна па хакеі. У турніры ўдзельнічалі каманды СШ №18, СШ №24, гарадскога цэнтра творчасці, ліцэя г. Барысава і Навасадскай сярэдняй школы.*

У выніку самай моцнай аказалася вучнёўская каманда Навасадскай школы. Вучні гэтай установы перамаглі аж у дзвюх узроставых катэгорыях. Другое месца заняла каманда цэнтра творчасці.

Вельмі хутка зборная каманда Барысаўшчыны будзе абараняць гонар нашага рэгіёна на абласных і, будзем спадзявацца, рэспубліканскіх спаборніцтвах.

**Міхась Пучыла**

# “Чырвоны Сцяг” ваеннага лекара

*Больш за 60 ваенных лекараў (у тым ліку больш за 15 жанчын), якія нарадзіліся ў невялікім даваенным Барысаве, знаходзіліся на франтах мінулай вайны, дзе заслужылі баявыя ордэны і медалі. На жаль, не ўсё вярнуліся з палёў бітваў.*

Не праміну нагоды, каб назваць імёны загінуўшых (шкада, што ў памяць пра іх у нашым горадзе не ўсталяваная нават самая сціплая мемарыяльная дошка):

**Бумштэйн Уладзімір Абрамавіч** (1909-1941);

**Гаркавы Нестар Купрыянавіч** (1893-1941);

**Гельфанд Зенаіда Яфімаўна** (1915-?);

**Мазо Ісак Іосіфавіч** (1899-1943);

**Мінкін Залман-Файвіш Хаімавіч** (1899-1941);

**Розаў Абрам Мендзелевіч** (1906-1942);

**Слабадар Майсей Яхімавіч** (1909-1941);

**Старобін Аўсей Давыдавіч** (1897-1941);

**Юхнавецкі Шалом Майсеевіч** (1892-1941).

Чым узнагароджвалі ваенных лекараў за подзвігі і заслугі? Як правіла, гэтымі ўзнагародамі былі ордэны Чырвонай Зоркі, Айчыннай вайны, медалі “За адвагу” і “За баявыя заслугі”. Дарэчы, медалём “За адвагу” (акрамя ордэна Чырвонай Зоркі), была ўзнагароджана родная сястра Героя Савецкага Саюза братоў Вайнрубаў ваенны ўрач Раіса Вайнруб.

Але сярод лекараў-землякоў я заўважыў хірурга, які быў узнагароджаны не частай сярод медыкаў, але вельмі высокай па значнасці баявой узнагародай – ордэнам Чырвонага Сцяга. Яго звалі Якаў Лазаравіч Іткін.

Ён нарадзіўся ў Барысаве ў сям’і саматужніка ў 1903 годзе, скончыў 2-і Ленінградскі медінстытут у 1932 годзе. Перад вайной жыў і працаваў у Яраслаўлі. У чэрвені 1941 года яму выдалі пятліцы з адной шпалай, што адпавядала званню ваеннага ўрача 3-а рангу. А праз год, 9 ліпеня 1942 года, ён быў прадстаўлены да ўзнагароды. Вось апісанне яго заслуг ва ўзнагародным лісце, які я знайшоў у Інтэрнэце.

*“Тав. Іткін – кіруючы хірург 25-а медсанбата, высокакваліфікаваны ўрач з адзінаццацігадовым хірургічным стажам і вялікім практычным досведам. За час дзейнасці ў 25-м медсанбаце пад яго непасрэдным кіраўніцтвам аказана хірургічная дапамога каля 9000 параненым байцам і камандзірам, у тым ліку, асабіста самім Іткіным праведзена 703 аперацыі і 319 пераліванняў крыві. Большасць складаных аперацый у 25-м медсанбаце зроблена тав. Іткіным, які неаднаразова вяртаў да жыцця шматлікіх байцоў і камандзіраў. У тых выпадках, калі хірургічнае ўмяшанне здавалася безнадзейным, тав. Іткін браў на сябе адказнасць, рабіў аперацыі, шматлікім байцам і камандзірам вярнуў жыццё.*

*Так чырвонаармеец Кур’янаў паступіў са скразным асколкавым раненнем дыхальнага горла без пульсу і прыкмет жыцця. Аперацыяй, якую зрабіў тав. Іткін, ён быў выратаваны.*

*11 красавіка 1942 года чырвонаармеец Смірноў з 580-а стралковага палка прыбыў з асколкавым раненнем грудзей і брушной поласці з прыкметамі разлітага запалення брушыны. Аперацыяй, якую правёў тав. Іткін, жыццё Смірнова была выратавана.*

*10 траўня 1942 г. чырвонаармеец Кочнеў прыбыў у медсанбат са сляпым кулявым раненнем у жывот, якое пашкодзіла тонкі кішэчнік і страўнік. Майстэрскай аперацыяй тав. Іткін вярнуў чырвонаармейца Кочнева да жыцця.*

*Палітрук аэрадромнага батальёна тав. Будзігаеў 17 сакавіка 1942 г. быў дастаўлены ў медсанбат з гнойным апендыцытам і запаленнем брушыны, прычым хвароба была настолькі запушчаная, што шматлікія хірургі адмовіліся рабіць аперацыю, лічачы выпадак безнадзейным. Тав. Іткін узяў на сябе адказнасць, зрабіў аперацыю і выратаваў камандзіру жыццё.*

*Такіх выпадкаў у хірургічнай практыцы тав. Іткіна было вельмі шмат, на іх тав. Іткін паказаў сапраўднае майстэрства хірурга.*

*Тав. Іткін кожную сваю аперацыю праводзіў з паказам маладым лекарам. Акрамя таго, ён актыўна дапамагаў у падрыхтоўцы медычных кадраў, прымаючы ўдзел у кароткатэрміновых зборах лекараў і медсясцёр.*

*Тав. Іткін для выратавання жыцця цяжкапараненых байцоў і камандзіраў неаднаразова выязджаў на палкавыя пункты і там праводзіў аперацыі..*

*За праяўленне мужнасці ў справе выратавання цяжкапараненых байцоў і камандзіраў, за выключную энергію і выяўленую высокакваліфікаваную хірургічную дапамогу, якая выратавала сотні жыццяў байцоў і камандзіраў, тав. Іткін, безумоўна, заслугоўвае ўрадавай узнагароды – ордэна Чырвонага Сцяга.*

*/Подпісы камандавання медсанбата/”.*

Узнагародны ліст на нашага земляка прайшоў усе неабходныя інстанцыі без перашкод, і загадам войскам Паўночна-Заходняга фронту ад 29 жніўня 1942 года №01063 кіруючы хірург 25-а медыка-санітарнага батальёна 188-й стралковай дывізіі Іткін Якаў Лазаравіч быў удастоены згаданай узнагароды.

На жаль, высветліць пасляваенны лёс хірурга Іткіна не ўдалося, але ў Яраслаўль ён не вярнуўся. Аднак там яго памятаюць.

***Аляксандр Розэнблюм***



*Дзякуючы камяням бачны абрысы падмурка аднаго з былых будынкаў засценка Баковічы.*

# Засценак Баковічы

*У гісторыі нашага краю было нямала пасяленняў, якія існавалі некалькі стагоддзяў і зніклі, амаль не пакінуўшы пра сябе ніякіх звестак. Адно з іх – засценак Баковічы.*




Знаходзіўся ён на поўдзень ад вёскі Янава ля поймы ракі Гайна каля самай мяжы сучасных Барысаўскага і Лагойскага раёнаў. Час яго заснавання невядомы. Але вядома, што ў XVIII стагоддзі ён ужо быў. І, што характэрна для засценкаў, яго жыхарамі былі каталікі. Яны, па стане на 1796 год, былі прыпісаны да зембінскага касцёла. Звестак пра тое, што там маглі жыць прыхаджане-ўніяты (праваслаўных вернікаў у той час у гэтай частцы Барысаўшчыны не было наогул) сустрэць не атрымалася.

Месца, дзе размяшчаўся засценак, знаходзілася ўбаку ад шляхоў. Гэта з аднаго боку забяспечвала больш ці менш ціхае жыццё яго жыхарам, з іншага, рабіла перспектывы яго развіцця больш сціплымі. Па гэтай самай прычыне на працягу XIX стагоддзя практычна ніякай інфармацыі пра гэты засценак (акрамя факту яго існавання) адшукаць не атрымалася. Варта толькі адзначыць, што не пазней XIX стагоддзя (і на пачатку XX стагоддзя) можна сустрэць у дакументах, акрамя афіцыйнай, другую назву засценка – Навасады. Аднак яна не прыжылася.

У сувязі з гэтым хацелася б адзначыць яшчэ адну акалічнасць. Раней недалёка ад засценка Баковічы існавала невялікая аднайменная вёска (на пачатку XX стагоддзя яна згадваецца як хутар). Недзе ў той самы час, што і для засценка, у яе таксама з’явілася другая назва – Мурожнае. Цікава, што ў дачыненні да вёскі, у адрозненне ад засценка, новая назва прыжылася. Само ж гэта пасяленне дайшло пад назвай Мурожнае да нашага часу і знаходзіцца ў Лагойскім раёне ля мяжы з Барысаўскім раёнам.

Па стане на 1910 год у засценку Баковічы было шэсць двароў і 52 жыхары. На пачатку савецкага часу колькасць сялянскіх падворкаў у ім павялічваецца. У 1929 годзе іх было 12. Далей пасяленне чакаў заняпад (у савецкі час яно ніяк не магло лічыцца перспектыўным). Тым не менш да вайны яно змагло праіснаваць. Але потым існаванне былога засценка спынілася. На Барысаўшчыне на адно пасяленне стала меней...

У Баковічах вырасла значна больш за дзясятак пакаленняў жыхароў краю, для якіх Баковічы былі малой радзімай. Яны, як і іншыя пасяленні краю, вартыя таго, каб мы памяталі пра іх і іх гісторыю.

***Міхась Мацельскі***

# Вуліца на старажытным шляху

*У Барысаве ёсць невялікая вуліца, якая носіць назву Гаранская. Мяркую, што пра яе існаванне хто мала ведае, а бываць на ёй даводзілася не шмат каму з жыхароў нашага краю. І гэта не дзіва, бо гэта тупіковая вуліца, якая мае працягласць усяго каля 700 метраў і знаходзіцца далёка ў баку ад асноўных гарадскіх магістраляў.*




Шмат для каго будзе вялікай нечаканасцю даведацца, што гэта кавалак старажытнага і ў свой час важнага для краю шляху. Дарэчы, паходжанне яе назвы (што рэдка бывае для сучасных назваў вуліц нашага горада) гістарычнае і, хоць і не на прамую, звязана з ім.

Час стварэння дадзенага шляху невядомы. Вядома, што больш за дзвесце год таму ён ужо існаваў. Верагодна, яго заснаванне варта аднесці да часоў не пазнейшых за час заснавання Барысава на новым месцы пасля пераносу з Старабарысава (г.зн. не пазней другой паловы XIV – пачатку XV стагоддзя). Гэта быў шлях, які ішоў з Барысава (ад моста праз Бярэзіну ля горада, дзе зараз стаіць пешаходны мост) на поўдзень праз Гару, Глівін, Забашавічы і г.д.

У 70-я гады XIX стагоддзя з пракладкай чыгункі гэты шлях у наваколлях Барысава не змяніўся, на месцы яго перасячэння з ёй узнік пераезд. Пазней, у 20-я гады XX стагод-

***(Працяг на стар. 8)***

# Калі была пабудавана царква, што стаіць па Газетным завулку? Адказ знойдзены?!

***(Працяг на стар. 5)***

З-за адзначаных вышэй акалічнасцяў няма падставы сумнявацца ў тым, што гаворка ідзе менавіта пра тую царкву, якая захавалася да нашага часу па Газетным завулку ў Барысаве.

Варта адзначыць, што Андрэй Шаталаў уступіў на пасаду гараднічага ў другой палове 1802 года і займаў яе да вайны 1812 года (у час вайны ён сыходзіў углыб Расіі) і пэўны час пасля яе.

Дакладна пра час, калі была пабудавана царква на могілках і пры якіх абставінах, можна даведацца з іншай цікавай справы, якая таксама захоўваецца ў фондах Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі. Яна мае назву “Справа аб спагнанні з барысаўскага адваката Прашынскага штрафу на карысць Барысаўскай Троіцкай могілкавай царквы за абгаворванне барысаўскага пачмайстра А.Караленкі ў зняважанні імя імператара” (разглядалася яна ў 1803-1805 гадах у 1-м дэпартаменце Менскага галоснага суда).

Пачмайстар Караленка дамагаўся спагнаць з Прашынскага (суд быў на яго баку) “шэсць капеек грошай літоўскіх”. Як адзначалася ў справе, гэтыя грошы ён меркаваў перадаць на “пабудову на могілках Свята-Троіцкай царквы, якая пераносіцца з горада” (размова ў справе была таксама пра былыя манастырскія могілкі). Прычым, калі ў дакументах 1803 года яна адзначалася як царква, якая пераносіцца, то ў 1804 годзе (на той час у рублях сума называлася роўнай 12 руб. 50 кап.) як перанесеная царква. І што для нас важна, у гэтай справе фігуруе барысаўскі гараднічы Шаталаў. Дарэчы, грошы Прашынскім былі ўнесены толькі ў 1805 годзе.

Што датычыцца Троіцкай царквы. Яна напрыканцы XVIII – пачатку XIX стагоддзя знаходзілася ў цэнтры горада на Рынкавай плошчы (ля сучаснага скрыжавання вуліц Лапаціна і Дзяржынскага). Яе будынак быў узведзены напрыканцы XVII – у XVIII стагоддзі.

Такім чынам, падобна на тое, што на пытанне, якое заставалася загадкай для даследчыкаў нашага краю і датычылася году пабудовы былой Андрэеўскай царквы, нарэшце знойдзены адказ. Гэта 1803 год. Прычым у той час на былых манастырскіх могілках не была пабудавана новая царква, а туды была перавезена старая з цэнтра горада.

Аднак разам з атрыманнем адказу ўзнікла некалькі новых, не менш складаных пытанняў, на якія ў нас на сённяшні час няма адназначнага адказу. Пра іх мы працягнем гутарку ў наступны раз.

***Міхась Мацельскі***



*Выгляд царквы на паштоўцы пачатку XX стагоддзя.*



Зімой у лесе на Барысаўшчыне.

# Лясны госць

*Сустрэчы з рэдкімі жывёламі ці птушкамі заўсёды прыносяць шмат пазітыўных уражанняў і эмоцый. Асабліва, калі гэтыя істоты самі наведваюць цябе.*

Менавіта так і адбылося гэтым разам. Здзіўленню не было межаў, калі я адчыніў засаўку коміна ў кузні, а адтуль вылецела велізарная сава. Выпусціць яе на двор было складана, бо яна не ляцела на святло ў адчыненае акно, а хавалася па цёмных кутах.



Пазней высветлілася, што гэта кугакаўка шэрая ці шэрая няясыць. Аседлы від соваў. Насяляе старыя лясы розных тыпаў, дзе ёсць дрэвы з дупламі, найбольш ахвотна селіцца ў дубравах. Але бывае, што селіцца і блізу жылля чалавека – на гарышчах кінутых хатаў, у старых комінах. Магчыма, у комін кузні яна заляцела з мэтай зладзіць там гняздо, але ён аказаўся надта глыбокі, і яна не змагла адтуль самастойна выбрацца.

**Алесь Панцялей**

# Зялёная планета

*Ужо не першы год з мэтай фарміравання экалагічнай граматнасці і беражлівых адносінаў да прыродных і гістарычных помнікаў свайго краю Цэнтр экалогіі і турызму ладзіць раённы экалагічны конкурс "Зялёная планета".*

Гэты год ён праводзіўся ў трох намінацыях:

1) конкурс малюнкаў "Мая Барысаўшчына";

2) конкурс малюнкаў з выявай турыстычнага маршруту ці экасцяжынкі па Барысаўскім раёне;

3) конкурс на лепшую метадычную распрацоўку эколага краязнаўчага маршруту па Барысаўскім раёне (для педагогаў).



Ганна Цыбулька, 12 год "Свята-Васкрасенскі сабор у Барысаве".

Удзел у конкурсе прынялі 26 устаноў адукацыі, якія праставілі на суд журы звыш 70 работ.

40 лепшых з іх выстаўлены ў фае другога паверха Цэнтральнай бібліятэкі.

Гэта яркія плакаты, малюнкі адметных мясцін нашага краю, якія выкананы ў розных матэрыялах і тэхніках, а таксама лепшыя метадычныя распрацоўкі.

5 студзеня падводзіліся вынікі конкурсу. У бібліятэцы сабралася каля сотні дзяцей, педагогаў, бацькоў.

Адкрываючы мерапрыемства, супрацоўніца галерэі "З'ява" Анжэла Кудакова павіншавала прысутных з Новым годам, Калядамі. Пахваліла дзяцей за ўмельства, за творчыя ўдачы, пажадала новых поспехаў.



Наталля Свядзінская, 15 год "Конна-спартыўны клуб Барысава".

Дырэктар Цэнтра экалогіі і турызму Анжэла Журавель выказала слушную думку: каб любіць свой край, яго трэба добра ведаць. Яна ўпэўнена, што ўдзел у конкурсе ўзбагаціў дзяцей інтэлектуальна і духоўна.

Затым прызёрам і пераможцам былі ўручаны падзячныя лісты і дыпломы.

Напаследак усе ўдзельнікі конкурсу сфатаграфаваліся на памяць.

Для іх (у якасці своеасаблівага падарунку ад бібліятэкі) была арганізавана экскурсія ў карцінную галерэю Валерыя Шкарубы.

**Іван Белы**

# Невялікая рэчка ля Глівіна *(вяртаючыся да публікацыі)*

*У нашай газеце №3(120) за 2009 год быў надрукаваны артыкул "Рэчка, назва якой згублена", які быў прысвечаны невялічкай рэчцы, што ўпадае ў Бярэзіну ля вёскі Глівін. Пасля часу, што прайшоў з таго моманту, удалося адшукаць некалькі цікавых гістарычных звестак, якія звязаны з ёй. Таму сёння мы пагутарым пра гэты тутэйшы водаток яшчэ раз.*

Нагадаем, што рэчка, пра якую ідзе расповед, зараз настолькі невялікая і малаводная, што летам яна нярэдка перасыхае амаль на ўсёй сваёй адлегласці.

Як і варта было чакаць (пра што мы і казалі ў папярэднім артыкуле), назва ў гэтай рэчцы раней была. У 40-я гады XIX стагоддзя яе называлі Багданаўка. Звяртае на сябе ўвагу, што гэта назва не балцкая (ці фінаўгорская), а славянская. Гэта мала характэрна для тутэйшых гідронімаў. Відавочна, што ў больш старыя часы яна мела іншае імя. Цікава таксама адзначыць, што па пэўных звестках значна пазней яна атрымала новую назву – Стружка. Аднак і яна не замацавалася і была страчана. Вядома, што гідронімы (у Беларусі і не толькі ў ёй) звычайна трымаюцца вельмі моцна і як звычай з'яўляюцца найбольш старымі геаграфічнымі назвамі ў краі. Дадзеная рэчка – адваротны прыклад. Чаму так здарылася? Відаць, з-за яе невялікасці і з-за таго, што яна і яе наваколлі (за апошнія 150 год) былі значна пераўтвораны чалавекам, і рэчка стала амаль незаўважнай (як літаральна, так і ў жыцці тамтэйшых жыхароў).



Варта згадаць і тую акалічнасць, што адной з бліжэйшых да гэтай рэчкі вёсак (без уліку Глівіна) з'яўляецца вёска Баранаўка (утворана ў другой палове XIX – пачатку XX стагоддзя). Блізкасць назваў Багданаўка – Баранаўка наўрад ці з'яўляецца выпадковым супадзеннем.

Але ад назвы вернемся да самой ракі. У 40-я гады XIX стагоддзя пра яе пісалася не інакш як "выцякае з глыбінь лясоў" (!). Для сучасных жыхароў краю стане вялікай нечаканасцю тое, што ў той час у ёй не проста вадзілася рыба, але і мясцовыя сяляне займаліся ў ёй яе ловам! Зараз у гэта практычна немагчыма паверыць, але гэта факт, які падмацаваны дакументальнымі звесткамі.

У сярэдзіне XIX стагоддзя, як мы ўжо пісалі раней, лес у наваколлях рэчкі быў высечаны. У савецкі час у яе вярхоўях "папрацавалі" меліяратары. У выніку ўсёй гэтай "бурнай" дзейнасці чалавека зараз тут няма ні рыбы, ні ракі (у паўнавартасным сэнсе гэтага слова), ні нават яе назвы...

**Антось Гурскі**

# З'явілася магчымасць даведацца пра стан прыроднага асяроддзя Барысаўшчыны ў 2015 годзе

*У другой палове студзеня Мінпрыроды Беларусі падрыхтавала зборнік "Стан навакольнага асяроддзя Беларусі" за 2015 год (адзін год пайшоў на абагульненне матэрыялаў) і зрабіла яго даступным на сваім сайце.*

Ён утрымлівае 12 глаў, у якіх распавядаецца з пункту гледжання навакольнага асяроддзя пра сацыяльна-эканамічную сітуацыю і здароўе насельніцтва, кліматычныя характарыстыкі года, небяспечныя гідраметэаралагічныя з'явы, якасць атмасфернага паветра і стан азонавага слою, водныя, зямельныя рэсурсы і глебы, лясы, жывёльны свет, захаванне ландшафтнай і біялагічнай разнастайнасці, геалагічнае асяроддзе, адыходы і рэгіянальныя экалагічныя праблемы.

У зборніку можна сустрэць нямала рознай інфармацыі, якая датычыцца Барысаўшчыны. Так, у 2015 годзе дзевяць з 12 месяцаў сярэдняя тэмпература ў Барысаве перавышала кліматычныя нормы. Найбольшыя перавышэнні былі ў студзені і сакавіку – на 5,5°С (па заходняй частцы краю – яшчэ болей). У чэрвені надвор'е было ў кліматычнай норме, у траўні яно было меней трошкі больш за 0,5°С, а ў кастрычніку – меней трошкі больш за 1°С.

У спісе небяспечных метралагічных умоваў у зборніку адзначана вельмі моцная спёка (+35°С і болей), якая была зафіксавана ў Барысаве (як і ў шэрагу іншых месцаў) 7-12 жніўня. У гэтым жа годзе ў Барысаве з 2 па 6 верасня быў адзначаны рэкордна нізкі ўзровень вады ў Бярэзіне – 8 см ад нулявога паста (нулявы пост у Барысаве знаходзіцца на ўзроўні 150,46 метраў). Папярэдні рэкорд 10 см. быў зафіксаваны ў жніўні-верасні 1992 года. Прычым на працягу ўсяго лета-восені 2015 года мінімальны ўзровень вады ў Бярэзіне быў ніжэйшы за сярэднестатыстычны на 32-56 см і не перавышаў 46 см (небяспечным узроўнем у Барысаве лічыцца ўзровень ніжэй за 80 см).

У зборніку Барысаў у 2015 годзе адзначаны сярод гарадоў, у якіх адбылося істотнае скарачэнне выкідаў ад стацыянарных крыніц (на 1,0 тыс.т.). Болей скарачэнне было толькі ў Менску, Гомелі і Жлобіне. Выкіды ў Барысаве склалі: цвёрдыя – 0,3 тыт.т., аксід вугляроду – 0,5 тыс.т., аксіды азоту – 0,5 тыс.т., вуглевадароды .(без НМЛОС) – 0,1 тыс.т., НМЛОС – 4,0 тыс.т., Усяго – 1,8 тыс.т. выкідаў, што складае больш за 12,5 кг. на аднаго жыхара горада. Варта адзначыць, што Барысаў з пункту гледжання забруджвання паветра не ўваходзіў у лік самых праблемных гарадоў Беларусі.

Сярэднегадавая канцэнтрацыя цвёрдых часціц (недыферанцыраваны пыл, аэразолі) у нашым горадзе складала 32 мкг/м³, максімальная разавая – 115 мкг/м³ (лімітна-дапушчальная канцэнтрацыя (ЛДК) складае адпаведна 150 і 300 мкг/м³); аксіду вугляроду – адпаведна 576 і 3080 мкг/м³ (ЛДК – 3000 і 5000 мкг/м³); па дыаксіду азоту – 16 і 52 мкг/м³ (ЛДК – 100 і 250).

У Барысаве былі таксама зафіксаваны сярэднегадавая канцэнтрацыя выкідаў фенолу 1,53 (максімальная разавая – 4,00) мкг/м³ (ЛДК – 10 мкг/м³), фармальдэгіду – адпаведна 7,13 (і 9,25) мкг/м³ (ЛДК – 30,0 мкг/м³).

У 2015 годзе ў параўнанні з 2014 у Барысаве павялічылася агульная мінералізацыя атмасферных ападкаў сума іонаў). Пры гэтым асноўную долю ў катыёнах займаў кальцый. У нашым горадзе пераважалі шчалачныя ападкі (прычым Барысаў адзначаецца сярод гарадоў, дзе яны былі найбольш частымі). У ападках, што прайшлі ў нашым горадзе, больш за ўсё было гідракарбанатаў і сульфатаў.

Сярэднегадавы расход вады ў Бярэзіне ў Барысаве ў 2015 годзе склаў 25,2 м³/с (сярэдні шматгадовы – 36,1 м³/с). Яго максімальнае значэнне было 5-10 красавіка і склала 50,0 м³/с, мінімальнае – 2-9 верасня – 11,7 м³/с. Дарэчы, Бярэзіна ў цэлым займала другое месца па ўзроўню скіду забруджваючых водаў рэчаў у яе ў складзе сточных вод. Горшая сітуацыя была толькі ў Дняпра. Варта адзначыць, што ля Барысава не самая забруджаная частка Бярэзіны. Праўда, і ля нашага горада фіксавалася больш за ліміціруемае перавышэнне амоній-іону, а сярэднегадавое значэнне фасфат-іонаў ніжэй Барысава перавышала ЛДК. Сярэднегадавая канцэнтрацыя жалеза перавышала ЛДК не толькі ў Бярэзіне (каля 1,7 разоў) але і ў Плісе (трошкі больш за Бярэзіну). У Гайне яна складала каля 0,75 ЛДК. Што датычыцца падземных вод, то на водазаборы Лядзішча №2 адзначана перавышэнне ЛДК па амоній-іону ў 1,8 разоў.

Колькасць дзікоў на тэрыторыі ДДЛХУ "Барысаўскі доследны лясгас" у 2015 годзе была паменшана з 94 да 20 жывёлін (пры аптымальнай колькасці 135 жывёлін).

Можна сустрэць у зборніку і іншую інфармацыю, якая датычыцца Барысаўшчыны.

Безумоўна, выданне "Стан навакольнага асяроддзя Беларусі" за 2015 год з'яўляецца вельмі грунтоўным і карысным усім, хто неабыякавы да стану нашага навакольнага асяроддзя. Будзем чакаць падобнага зборніка, у якім будзе распавядацца пра вынікі 2016 года.

**Служба інфармацыі "ГБ"**





*Нямецкае бетоннае абарончае збудаванне часоў Другой сусветнай вайны (зверху). Было на тэрыторыі, дзе зараз знаходзіцца 6-ы мікрараён. Фота 1990 года. Было зроблена напярэдадні вынішчэння збудавання.*

*Выгляд на пойму Бярэзіны і стары горад з Батарэй (злева). Фота зроблена ў 1992 годзе. На ім бачна, што будаўніцтва пешаходнага моста толькі пачынаецца. У пойме Бярэзіны ідзе намыццё грунту, што ў далейшым (у выніку таго, што яна была пакінута на волю лёсу) прывяло да яе зарастання.*

# Барысаў гадоў 25 таму – гэта ўжо гісторыя

*Сёння вашай увазе прапануецца невялікая фотападборка, у якую ўключаны здымкі Барысава пачатку 90-х гадоў XX стагоддзя.*

За гэты час мы штосьці страцілі, штосьці набылі. На фотакартках – усяго некалькі прыкладаў месцаў (іх магло быць значна болей), якія зараз выглядаюць інакш, чым 25 год таму. Прычым, як на першы погляд не дзіўна, вельмі цяжка ў горадзе падабраць гістарычнае месца, стан якога зараз лепшы, чым быў тады (падобных прыкладаў можна прывесці толькі некалькі). На вялікі жаль, мы вымушаны на старонках нашай газеты пастаянна размяшчаць матэрыялы пра тое, як у наш час знявечацца тутэйшыя гістарычныя мясціны, архітэктурная спадчына. Як бачна са здымкаў, 25 год таму гэта праблема для горада была не менш актуальнай, чым зараз. Наогул, апошнія сто год – гэта практычна непарыўная гісторыя знішчэння тутэйшых гістарычных каштоўнасцяў. Што датычыцца пачатку 90-х гадоў, то тады ішло бурлівае змаганне за нашу спадчыну. Штосьці пры гэтым атрымалася адстаяць (напрыклад, спыніць забудову замчышча сучаснымі шматпавярхоўкамі), а штосьці так і было страчана... Хтосьці запярэчыць, скажа, што эканамічна той час быў вельмі цяжкім. А хіба ў нас у больш "лёгкія" часы сітуацыя была лепей? Адказ – відавочны. Вельмі хацелася б, каб бліжэйшым часам усё ж атрымалася змяніць сітуацыю ў гэтым пытанні.



*Этан замкавай турмы (злева) значна лепшы, чым зараз. Фота 1991 года.*

*Вынішчэнне рова барысаўскага замка ідзе поўным ходам (знізу). Фота 1991 года.*



*На аднайменнай вуліцы яшчэ стаіць стары помнік С.Арджанікідзэ (злева). Фота 1992 года. У той час у Барысаве яшчэ стаялі помнікі Леніну ў скверы насупраць запалкавай фабрыкі і СШ 12. Помніка ля парка ўжо не было, на Цэнтральнай плошчы – ужо быў.*







*Рэшткі толькі што знішчанага будынка найбуйнейшага дарэвалюцыйнага кінатэатра горада "Гігант" (справа). Фота 1991 года.*

*Ідзе вынішчэнне алеі па вуліцы Ленінскай (злева), якая была пасажана ў часы І.Каладзеева і вяла да яго сядзібы. Фота 1992 года.*

# "Чалавеку гераічнага лёсу,

*З вялікай бібліятэкі Леаніда Рашкоўскага, якую ён свядомае жыццё любоўна збіраў, у фондах краязнаўчага музея захоўваецца некалькі дзясяткаў кніг з дарчымі надпісамі.*

Першыя з іх ён атрымаў ад землякоў, ад творчых людзей, для якіх Барысаў стаў старонкай іх біяграфіі. З імі паэт цесна кантактаваў на паседжаннях літаратурнага аб'яднання "Бярэзіна", якім кіраваў у 60-80-я гады мінулага стагоддзя, на творчых сустрэчах у розных калектывах горада.

Міхась Стрыгалёў (1998-2006 г.г., з 1978 года жыў у Барысаве, пасля Рашкоўскага кіраваў літаб'яднаннем "Бярэзіна") прэзентаваў свой зборнік паэзіі "Чырвоныя казармы" з такім надпісам: "Дарагому Лёню Рашкоўскаму, якога добра ведаю і паважаю, у дзень сустрэчы – шчыра, сардэчна. Міхась Стрыгалёў. 30 сакавіка 79 г."

Зборнік паэзіі "Дороже хлеба" Гірша Каменецкага (1895-1957 г.г., ураджэнца вёскі Чэрнеўка, пісаў на ідыш) яго родныя падаравалі з надпісам "От родных Каменецкого Леониду Рашковскому, от Левиных Блюмы и Хили, 14.06.78 г."

Свой зборнік дакументальных нарысаў "Помняць тыя, каму выпала жыць" падаравала вядомы журналіст, уласны карэспандэнт "Мінскай праўды" ў Барысаве Лілія Ерусалімчык.

Алесь Ставер (1929-1995г.г.), вядомы паэт-песеннік, празаік, выпускнік Барысаўскага педвучылішча, часта наведваў у Барысаве Яўгена Замерфельда, Леаніда Рашкоўскага) падараваў тры свае кнігі.

Аляксандр Быкаў (н. у 1954 г., актыўна наведваў паседжанні літаб'яднання "Бярэзіна", з 1985 года жыве і працуе ў Мядзелі) з удзячнасцю ўручыў Л.Рашкоўскаму свой зборнік "Цалую рукі маёй жанчыны".

Дзіцячы пісьменнік Міхась Гелер, які часта наведваў Леаніда Рашкоўскага, папоўніў яго бібліятэку сваімі кнігамі "Непрадбачныя абставіны" і "Як крылы дзівоснай птушкі".

Міхась Вінакураў (1924-2007 г.г., старшыня калгаса і настаўнік гісторыі ў Дроздзіне і Мётчы, аўтар 15-томнага летапісу Мядоцкага краю) пры сустрэчы 14 красавіка 1978 г. падарыў сваю кнігу нарысаў "Кіламетры родных дарог" з аўтографом "Леаніду Сямёнавічу Рашкоўскаму! На добрую памяць о толстом дядьке" из Дроздино, который часто тлумил Вам голову своими пустыми литературными "прожектами". Примите эту книгу – символ глубокого уважения автора – с наилучшими пожеланиями в жизненных и творческих начинаниях".

У Леаніда Рашкоўскага былі цесныя сяброўскія стасункі з людзьмі, якія, падобна яму, трапілі ў цяжкую жыццёвую сітуацыю, але знайшлі сілы, волю, праявілі моц характару, каб сцвердзіць сябе як творчыя асобы.

Гаўрыіл Шутэнка (1924....... пасля цяжкага ранення назаўсёды страціў зрок, жыў у Навагрудку). У суправаджэнні жонкі прыязджаў у Барысаў у 1974 годзе. На памяць пакінуў дзве кніжкі вершаў "Памяць" і "Смага". Дорчыя надпісы зрабіла жонка. Сам змог, губляючы роўнасць радка, напісаць: "Товарищу по перу и другу Л.Рашковскому".

Вісарыён Гарбук (1913-1986 г.г., франтавая хвароба на многа гадоў прыкавала яго да шпітальнага ложка. Жыў у Пяцігорску. Літаратурная праца стала для яго адзінай магчымасцю актыўна удзельнічаць у грамадскім жыцці) падараваў кнігу сваіх апавяданняў "Твар у палоску".

Даір Слаўковіч (г.н. 1932, інвалід с праблемамі опорна-рухальнага апарата) часта бываў у Барысаве, заўсёды наведваў дом №35 па вуліцы Марозава, дзе жыў Л.Рашкоўскі.

Падараваў тры свае кнігі прозы для дзяцей "Пачым фунт ліха", "Хвядоскавы канікулы", "Я ў рабочыя пайду".

Галіна Гампер (1940-2015 г.г., пецярбургская паэтэса, перакладчык, інвалід з дзяцінства) шмат гадоў перапісвалася з Леанідам Рашкоўскім. Яны абменьваліся сваімі кнігамі. Так бібліятэка нашага земляка папоўнілася двума зборнікамі яе вершаў "Крыло" і "Кропка дотыку".

# цудоўнаму паэту...”
















Уладзімір Забаштанскі (1940-2011 г.г., украінскі паэт і перакладчык, лаўрэат прэміі Тараса Шаўчэнкі. Падчас узрыву (1958 г. страціў зрок, абедзве рукі) перадаў Леаніду Рашкоўскаму кнігу паэзіі “Пах даліны”.

У працэсе падрыхтоўкі публікацый сваіх твораў у перыядычным друку, падрыхтоўкі да выдання новых кніг Леанід Рашкоўскі цесна кантактаваў з многімі беларускімі пісьменнікамі, выдаўцамі, супрацоўнікамі газет, часопісаў. Натуральна, узнікалі сувязі, часта сяброўства. Многія з іх лічылі сваім абавязкам (а то і гонарам) падтрымаць нашага земляка. Аб гэтым сведчаць шматлікія дарчыя надпісы ў кнігах, якія папаўнялі яго бібліятэку ў 70-90-я гады 20 стагоддзя.



Міхась Калачынскі (1917-1990 г.г., у 1960-78 г.г. – галоўны рэдактар часопіса “Беларусь”) у сваім зборніку вершаў і казак “За палямі, за лясамі” пакінуў такі дарчы надпіс.









Алесь Махнач (1924 г.н., драматург, публіцыст, удзельнік абароны Брэсцкай крэпасці) падараваў зборнік аднаактавых п’ес (1961).

Вера Палтаран (1910 – 1989 г.г.), рэдактар аддзела крытыкі часопіса “Маладосць”, у 1973-1989 г.г. – загадчыца рэдакцыі выдавецтва “Мастацкая літаратура” у кнізе нарысаў “Ключы ад Сезама” напісала: “Леаніду Рашкоўскаму на шчырую дружбу”.

Анатоль Грачанікаў (1938-1991 г.г., галоўны рэдактар часопісаў “Вясёлка”, “Бярозка”, “Маладосць” прэзентаваў свой зборнік паэзіі “Круглая плошча” з аўтографамі: “Дарагому Леаніду Рашкоўскаму, цудоўнаму паэту і чалавеку ад шчырага сэрца з лепшымі пажаданнямі ў жыцці і творчасці. 14.X.71 г.”.







Як ніхто другі жыццёвым і творчым лёсам Рашкоўскага апекаваўся Сяргей Грахоўскі (1913-2002 г.г., паэт, празаік, публіцыст, вязень сталінскіх канцлагераў). У бібліятэцы захаваліся дзве яго кнігі “Паэмы дарог” і “Сейбіт дабра і гневу”.




Вядомы паэт Хаім Мальцінскі (1910-1986 г.г., пісаў на ідыш) падчас сустрэч у Барысаве пакінуў аўтографы на сваіх кнігах паэзіі “Б’ецца сэрца крыніцы” і “Родны дом”.

Міхась Скрыпка (1907-1991 г.г., у 1961-1971 гадах намеснік дырэктара бюро прапаганды мастацкай літаратуры) часта выступаў у Барысаве, сустракаўся з Рашкоўскім. Падчас адной з сустрэч пакінуў у сваім зборніку гумарэск “Сатырычны калаўрот” наступны дарчы надпіс.






Павел Місько (1931-2011 г.г., паэт, празаік, публіцыст, перакладчык, драматург) у кнізе “Зямля ў нас такая” пажадаў.

Згадамі творчыя кантакты Л.Рашкоўскага пашыраліся, завязвалася знаёмства з пісьменнікамі розных рэспублік і, як правіла, гэта ўмацоўвалася абменам плёнам сваёй творчай працы – кнігамі.




Барыс Серман (1912-1996 г.г., крымскі паэт, празаік, журналіст, грамадскі дзяяч) у сваёй кнізе “Ростані і сустрэчы” пакінуў аўтограф “Лёне! По-дружески, в память о встрече и с самыми добрыми пожеланиями. Борис Серман. 8.VI.1967 г., г.Симферополь”.




Роберт Вінанен (1939 г.н., аўтар мноства паэтычных зборнікаў, перакладчык, член Фіна-ўгорскай Акадэміі навук) у зборніку вершаў “Імгненне” пакінуў аўтограф.

Барыс Дубровін (1925 г.н., удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, лаўрэат Усесаюзных конкурсаў (літаратурных, музычных, тэлевізійных), аўтар тэкстаў многіх песень, якія напісалі вядомыя савецкія кампазітары) у зборніку “Насуперак разлуцы” напісаў











Канстанцін Скварцоў (1939 г.н., лаўрэат шматлікіх літаратурных прэмій, сустаршыня праўлення Саюза пісьменнікаў Расіі) у 1970 годзе падпісаў сваю кнігу “Вершы. Паэма”.




Юлія Друніна (1924-1991 г.г., славутая паэтка, інвалід вайны, узнагароджана медалямі, ордэнамі) у сваім зборніку “У двух вымярэннях” пакінула лаканічны надпіс “Леониду Рашковскому – дружески. Юл.Друнина. 1.III-75”.

Галіна Гардасевіч (1935-2001 г.г., украінская паэтка, празаік, крытык, грамадскі і палітычны дзеяч) падаравала сваю кнігу паэзіі “Нарачоная сонца”.

**Іван Белы**

# Барацьбіты з бяспамяцтвам

*Мінчук Леанід Уладзіміравіч Маракоў у 1986 годзе скончыў радыётэхнічны інстытут і паспяхова працаваў па спецыяльнасці. Аднак праз 10 гадоў ён пакінуў працу з тэхнікай і заняўся зусім іншай справай – выцягваннем з забыцця жыхароў Беларусі, якія ў перыяд бальшавіцкіх рэпрэсій былі бязвінна абвешчаны ворагамі народа і расстраляны або надоўга адпраўлены за калючы дрот.*

На падставе архіўных следчых спраў. Маракоў за вельмі кароткі час змог зрабіць даступнымі для шырокай грамадскасці звесткі аб 20 тысячах грамадзян Беларусі, якія апынуліся па волі лёсу ў сталінскай мясасечцы. Пры гэтым гарачы даследчык назваў не толькі імёны ахвяр, але і катаў. Плён яго працы можна па праве назваць манаграфіямі і энцыклапедыямі. Вось назовы толькі некаторых яго кніг.

"Рэпрэсаваныя беларускія літаратары. Энцыклапедычны даведнік у 2 тамах". –Мн., 2002.

"Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі. Энцыклапедычны даведнік у 10 тамах (15 кнігах). Т. 1-4". Смаленск, 2003. –Мн., 2007.

"Толькі адна ноч (ратапрынтнае выданне)". –Мн., 2006.

"Рэпрэсаваныя праваслаўныя свяшчэнна- і царкоўнаслужыцелі Беларусі, 1917-1967. Энцыклапедычны даведнік у 2-х тамах". –Мн., 2007.

"Ахвяры і карнікі. Даведнік". – Мн., 2007.

У гэтых кнігах названыя і імёны вельмі шматлікіх барысаўцаў, якіх улада ў той злапамятны час адправіла ў нябыт. Такіх у нашым раёне аказалася больш дзвюх тысяч.

Лёгка выказаць здагадку, што вядомы пісьменнік-энцыклапедыст, выдаўшы шмат кніг, павінен быў быць багатым чалавекам, але ён казаў, што галоўнае не грошы, а памяць. Калі Маракоў з пухлінай мозгу апынуўся ў Менскім дзяржаўным хоспісе, грошы на неабходнае санітарна-гігіенічнае прыладдзе прыйшлося збіраць з працягнутай рукой. Нобелеўскі лаўрэат Святлана Алексіевіч ахвяравала 1000 даляраў...

У мінулым снежні Леаніда Уладзіміравіча пахавалі (ён пражыў усяго 58 гадоў). Мая прыяцелька была на пахаванні. Распавяла мне, што з двухмільённай сталіцы на могілкі для развітання з унікальным пісьменнікам дайшлі каля 20 чалавек, уключаючы сваякоў.



*Эдуард Белтаў (зверху). Леанід Маракоў (злева).*

Хачу назваць яшчэ аднаго чалавека, які займаўся вяртаннем забытых імёнаў, носьбітамі якіх былі пакутнікі Гулага. Гэта ізраільскі журналіст Эдуард Мікалаевіч Белтаў (1939-2010). Ён сабраў звесткі пра многія тысячы яўрэяў і апублікаваў іх у двух важкіх фаліянтах у выглядзе энцыклапедычнага даведніка. За праведзеную пошукавую працу даследчык, адзін з нямногіх, быў узнагароджаны медалём Раўля Валенберга.

У кнігах Э.М.Белтава я знайшоў мноства рубрык пра барысаўцаў. Дарэчы, і сам Эдуард Мікалаевіч мае некаторае дачыненне да Барысава. Ён нарадзіўся ў Самары, але яго маці Песя Вайнштэйн была родам з Барысава. І дзядзька Віктар Міхайлавіч Белтаў (палкоўнік, паэт, адметны артыст народнага тэатра) таксама вельмі доўга жыў у Барысаве, дзе пакінуў добрую памяць.

Сёння памяць пра ахвяраў палітычных рэпрэсій бальшавіцкіх часоў мала каго трывожыць. Мінула з той пары шмат гадоў. Да таго ж нядаўна прынятыя недасканалыя законы пра абарону прыватнага жыцця грамадзян абмежавалі доступ да архіўных дакументаў, што, па сутнасці, дало магчымасць дзяржаве стаць на варце бяспамяцтва. Магу пацвердзіць гэта свежым прыкладам.

На маю заяву з просьбай разгледзець пытанне пра рэабілітацыю былога старшыні Барысаўскай раённай рабоча-сялянскай інспекцыі Юрыя Лехерзака пракурор горада Менска С.К.Хмарук у лісце №12-179-2016 ад 04.01.2017 адказаў, у перакладзе на простую мову, так: паколькі вы не сваяк Лехерзаку, паведамляць вам якія-небудзь звесткі пра яго закон не дазваляе.

Паміж тым, якія сакрэты можа ўтрымліваць асоба расстралянага Лехерзака, калі ў перыяд адкрытага суда над ім у 1937 годзе ўсе беларускія газеты пісалі пра яго падрабязна, не забываючыся пры гэтым зваць яго набрыддзю і гнюсам?

Выходзіць, голасна абзываць зняважлівымі словамі і расстраляць чалавека можна, а праверыць і паведаміць, наколькі гэта было законна і справядліва, нельга.

Помніка нявінна забітым барысаўцам няма і не прадбачыцца. Былы намеснік старшыні Барысаўскага гарвыканкама Ларыса Белая добра памятае, як на сходзе гарадскога актыву камуністы высмеялі прапанову ўсталяваць такі помнік.

***Аляксандр Розэнблюм***

# Вуліца на старажытным шляху

***(Працяг, пачатак на стар. 3)***

дзя з паўднёвага боку пераезду (зараз – у межах Залінейнага раёна) узнікае і развіваецца вёска, якая ад яго (і шляху, на якім ён стаяў) атрымлівае назву Гаранскі пераезд.

Развіццё чыгункі ў межах Барысава "паставіла крыж" на перспектывах развіцця гістарычнай магістралі ў дадзеным месцы. У 20-я гады XX стагоддзя пачынае развівацца адгалінаванне чыгункі, якое ў далейшым было працягнута да Лядзішча. Першы час гэтая новабудоўля практычна не паўплывала на стары шлях, але потым – ён з пачатку ад паўночнага боку чыгункі быў падкарэктаваны пад новыя рэаліі, а далей дадзены чыгуначны пераезд быў зусім закрыты (адбылося гэта напрыканцы 30-х гадоў XX, або на самым пачатку 40-х). Новы шлях з Барысава на Гару стаў ісці праз пераезд, які існуе і зараз паміж вуліцамі 30 год ВЛКСМ і Завадской. Аднак сам стары шлях праз Гару-Глівін-Забашавічы працягваў існаваць яшчэ некалькі дзясяткаў год. Новы шлях, які прайшоў між вёскамі Гара і Юшкевічы і далей, быў пракладзены толькі на пачатку 70-х гадоў XX стагоддзя.

Што ж здарылася пасля закрыцця пераезду з вёскай Гаранскі пераезд? Яна аказалася адрэзанай чыгункай ад горада ўдалечыні ад дарог, пазбавілася асноўных фактараў, якія стварылі яе і пэўны час з'яўляліся асновай для яе развіцця. Калі б не "наступ" Барысава, то вельмі верагодна, што гэтае пасяленне проста магло знікнуць. Але ўсё склалася інакш. Неўзабаве сюды "дайшоў" горад. Там, дзе ўздоўж шляху раней сфарміравалася вясковая вуліца, яна і засталася ў межах горада. Далей шлях ужо не існаваў, мясцовых патрэбаў у захаванні праезду на гэтым яго ўчастку таксама не было. Горад у гэтай частцы развіваўся на аснове іншай планіроўкі. Таму астатняя частка былога шляху не захавалася.

Нам жа (у межах горада) ад старога шляху засталася невялікая вуліца і яе назва, якая нагадвае пра тое, да якой бліжэйшай вёскі можна было па ім даехаць. Гаранская вуліца – яшчэ адзін яскравы прыклад у Барысаве, калі яго старонка гісторыі праяўляецца ў самым нечаканым для нас месцы, дзе,здавалася б, яе сляды варта шукаць меней за ўсё.

***Міхась Мацельскі***

# Эканамічная гісторыя Барысаўскага рэгіёна і горада Барысава

## *(з найстаражытных часоў да сучаснасці)*

***(Працяг, пачатак у №10-12 (175-177) за 2013 г., 1-12(178-189) за 2014 г. і 1-12(191-201) за 2015 г., 1-9(202-211) за 2016 г., 1(214) за 2017 г.))***

Нягледзячы на ўвядзенне ў 1922г. чырвонца, у грашовым абароце савецкай краіны яшчэ на працягу двух гадоў дамінаваў "саўзнак". Так, на 1 студзеня 1923 г. колькасць цвёрдай валюты ў агульнай грашовай масе не перавышала 3%. Аднак па меры пашырэння сферы абароту чырвонца, сфера абароту "саўзнака" звужалася, і адначасова ішло яго імклівае абясцэньванне. Да прыкладу, толькі за лістапад 1923 г. "саўзнак" страціў 48% свайго кошту да чырвонца. Атрымаўшы інфляцыйныя грошы ў выглядзе зарплаты, рознага роду выплат, сродкаў ад гандлёвай дзейнасці, насельніцтва імкнулася ад іх хутчэй пазбавіцца, ад чаго хуткасць абарачэння "саўзнака" расла неймавернымі тэмпамі. Хаос грашовай сістэмы і звязаныя з гэтым цяжкасці гаспадарання прывялі да з'яўлення розных умоўных фінансавых вымяральнікаў і індэксаў, не схільных да інфляцыі (таварны рубель, індэкс Дзяржбанка, індэкс Спецыяльнай каціравальнай камісіі, бюджэтны індэкс Дзяржплана).

Адным з самых распаўсюджаных вымяральнікаў з'яўляўся таварны рубель, які паўсюдна ўжываўся ў эканоміцы СССР у першыя гады Нэпа і аж да грашовай рэформы (з канца 1921 па люты 1924 г.). Ад таго, якім быў курс таварнага рубля, залежала жыццё ледзь не кожнага грамадзяніна, незалежна ад таго, да якога сацыяльнага пласта ён належаў: быў "нэпманам", чалавекам вольных прафесій, настаўнікам або лекарам, службоўцам або працоўным, утрыманцам. Справа ў тым, што ў таварных рублях прадпрыемствы складалі дамовы, рабілі калькуляцыю сабекошту тавараў, якія выпускалі (умоўны рубель выступаў у якасці адзінкі вымярэння таварных коштаў), налічалі заработную плату сваім працоўным (калі гэта прадугледжвалася калектыўнай дамовай). Для прыкладу прывядзем сярэднюю заработную плату ў таварных рублях і капейках, якая выплачвалася ў 1922-1923 гг. на металаапрацоўчых, харчовых, гарбарных і шкляных прадпрыемствах БССР (у Барысаве, нагадаю, было некалькі прадпрыемстваў падобнага профілю):

- на студзень 1922 г. – 3,28;
- на 1 кастрычніка 1922 г. – 12,75;
- на студзень 1923 г. – 15,2;
- на сакавік – 16,8;
- на чэрвень – 20;
- на 1 кастрычніка 1923 г. – 21,44.

Савецкі таварны рубель па сваёй пакупніцкай здольнасці адпавядаў залатому рублю Расійскай імперыі. Пакупніцкая здольнасць таварнага рубля вылічвалася на падставе спецыяльнага індэксу коштаў, які ўяўляў суадносіны кошту тавараў да коштаў тых жа тавараў 1913 г. Чаму быў узяты ўзровень коштаў менавіта гэтага года? У папярэдніх публікацыях гаварылася, што абмен папяровых рублёў на залатую манету бесперашкодна ажыццяўляўся ў Расіі аж да ўступлення краіны ў Першую сусветную вайну 1-а жніўня 1914 г. Ужо напярэдадні спыніўся свабодны абмен на золата, а з пачаткам вайны залатыя, срэбныя і нават медныя манеты сталі знікаць з грашовага звароту. Гэта разам з іншымі прычынамі выклікала інфляцыю і рост коштаў. Таму адносна стабільны перадваенны 1913 год і быў узяты за аснову савецкімі эканамістамі.

Між тым, кошты на адны і тыя ж тавары ў розных губернях, паветах і гарадах Расійскай імперыі нярэдка адрозніваліся. Да прыкладу, кошты на прадукты харчавання ў павятовым Барысаве былі ніжэй, чым у губернскім Менску. Таму на месцах кошты ў "саўзнаках" пераводзіліся ў таварныя рублі метадам перараздліку па спецыяльным індэксе, які вылічваўся зыходзячы з суадносін бягучых рынкавых таварных коштаў, да коштаў аналагічных тавараў, якія былі ў дадзенай мясцовасці ў 1913г. Галоўным недахопам метаду была частая адсутнасць дакладных дадзеных па даваенных коштах. Па гэтай прычыне мясцовы таварны рубель нярэдка з'яўляўся адвольнай велічынёй, што ў сваю чаргу абцяжарвала параўнанне ўзроўняў зарплаты па розных рэгіёнах, бо рэальная пакупная здольнасць мясцовага таварнага рубля была вельмі рознай у сілу разнастайнага даваеннага кошту ў кожнай асобнай мясцовасці. У сакавіку 1923 г. быў апублікаваны цыркуляр ВЦСПС і ВСНХ СССР за № 555 "Аб парадку налічэння зарплаты па калектыўных дамовах", дзе, у прыватнасці, адзначалася, што в налічэнне зарплаты па калектыўных дамовах у таварных рублях атрымала паўсюднае ўжыванне, забяспечыўшы ўстойлівасць налічанай зарплаты. Кажучы мовай сучасных эканамістаў, пры дапамозе таварнага рубля адбывалася індэксацыя зарплаты, яе пакрыццё ад страт, выкліканых абясцэньваннем "саўзнакаў" і павышэннем коштаў.

У Барысаве пераход да налічэння і выдачы зарабатнай платы працаўнікам прадпрыемстваў і службоўцам дзяржаўных устаноў па курсе таварнага рубля завяршыўся да восені 1923 г. Не мінула і месяца, як 23 верасня Барысаўскі павятовы выканаўчы камітэт выдаў "абавязковую" пастанову №33 "Аб збіранні кватэрнай платы". У пастанове прама гаварылася, што падставай для ўсталявання квартплаты (раней пражыванне было бясплатным) стала налічэнне заробку па курсе таварнага рубля. Спаганяць плату за жыллё намячалася з 1-а кастрычніка, а адзінкай вымярэння жылой плошчы лічыўся квадратны сажань (ужывалася да 1927), памер якога складае крыху больш 4,5 квадратных метра. Характэрна, што на момант прыняцця пастановы кватэрнае пытанне ў старым і новым горадзе было не проста вострым, а вельмі, вельмі вострым. 9 кастрычніка 1923 г. бюро прэзідыума СНГ БССР прыняло пастанову аб сваім удзеле ва ўзнаўленні Барысава, дзе гаварылася: "Лічыць прынцыпова магчымым удзел СНГБ ва ўзнаўленні Барысава пабудовай кватэр для працоўных гаспадарчых адзінак. Для пабудовы працоўных кватэр замаўляць выдзяленне лесу з агульнага лесасечнага фонду. На выдаткі па пабудове кватэр асігнаваць на бліжэйшы будаўнічы сезон 30 тыс. руб. золатам. Вытворча-тэхнічнаму аддзелу распрацаваць план працоўнага пасёлка і... скласці адпаведны каштарыс". Зробім удакладненне: "30 тыс. руб. золатам" – гэта сума, выражаная папяровымі чырвонцамі, але не самім каштметалам. Пасля завяршальнага этапу грашовай рэформы 1924 г. неабходнасць у таварным рублі папросту адпала. Пастановай Савета Працы і Абароны ад 29 лютага 1924 г. забаранялася заключэнне дамоў, выдача абавязацельстваў, усталяванне тарыфаў, налічэнне зарплаты і г.д. у таварных рублях. Сумы ранейшых дамоў у таварных рублях не пазней 31 сакавіка 1924 г. падлягалі пераводу ў залатыя рублі (г.зн. у чырвонцы).

Важным паказчыкам рэальнай заработнай платы працоўных і службоўцаў першай паловы 1920-х гг. былі бюджэтныя наборы. Па наборы пэўнай колькасці прадуктаў харчавання і прадметаў першай неабходнасці на падставе рынкавых коштаў, галоўным чынам у даваенных рублях, выводзіўся кошт бюджэтнага набору, які служыў асновай налічэння заробку. Па меры змены кошту жыцця і росту заработнай платы наборы неаднаразова пераглядаліся. Так, калі ў 1921 г. бюджэтны набор уключаў толькі 7 прадметаў першай неабходнасці, то ў 1925/26 г. ужо 24 найменні (хлеб, мяса, алей, цукар, соль і г.д.). На кошт набору ўплывала мноства фактараў, таму нават у розных гарадах кошт мог адрознівацца. Так, да 1 верасня 1924 г. у Менску, Барысаве, Мазыры адбылося павышэнне кошту бюджэтнага набору, а ў Віцебску і Оршы – наадварот паніжэнне. У дадзеным выпадку ваганне коштаў шэрагу тавараў набору выклікала ўвядзенне цвёрдай валюты і ўзбуйненне БССР (пра гэта размова яшчэ будзе). Кошт набору адлюстроўваўся на пакупной здольнасці таварнага рубля. Прычым, у некаторых рэгіёнах краіны таварны рубель вылічваўся на аснове кошту тавараў толькі з бюджэтнага набору. Больш таго, да ўводзін у грашовы зварот чырвонца зарплата налічвалася ва ўмоўных бюджэтных рублях. У адрозненне ад таварнага бюджэтны рубель выводзіўся на аснове індэкса коштаў некаторых тавараў, якія ўваходзілі ў бюджэтны набор пралетарыяў. Пасля 1924 г. зарабатная плата стала вылічацца ў "червонных" рублях. З увядзеннем аплаты працы ў цвёрдай валюце бюджэтны набор страціў сваё ранейшае значэнне як рэгулятар мінімальнай зарабатнай платы. У далейшым ён стаў ужывацца пераважна для разлікаў індэксаў кошту жыцця і рэальнай зарабатнай платы.

***Працяг будзе)***

***Аляксандр Балябін,***
*гісторык-археограф ДУК "Барысаўская цэнтральная раённая бібліятэка імя І.Х.Каладзеева"*





*Брат Марыі Фёдараўны Нікіфаровіч Сяргей Татарынчык (зверху).*

*На фота злева: Марыя Фёдараўна Нікіфаровіч (у цэнтры) з гімназісткамі. Здымак зроблены ў Санкт-Пецярбургу каля 1910 года.*

# Год за годам

***(90-гадовая гісторыя СШ №1 горада Барысава ў біяграфіях яе настаўнікаў і вучняў, у гісторыі эпохі)***

***(Працяг, пачатак у №12(213) за 2016 г., 1(214) за 2017 г.)***

## Першая загадчыца школай Марыя Фёдараўна Нікіфаровіч, члены яе сям'і ў гісторыі 1-й школы

*Вообрази – тебя уж нет,*
*Как бы и вовсе не бывало,*
*Но светится твой тайный след*
*В иных сердцах… Иль это мало –*
*В живых сердцах оставить свет?..*

***М.Петровых***

Марыя Фёдараўна Татарынчык (Нікіфаровіч), нарадзілася 14 красавіка 1892 года ў г. Бабруйску ў сям'і шляхціча Фёдара Татарынчыка і беднай непісьменнай яўрэйкі Яўгеніі. Чацвёра іх дзяцей (2 сыны і 2 дачкі) мелі добрыя здольнасці да навучання, таму вучыліся ў гімназіях Санкт-Пецярбурга. Адзін з сыноў – Сяргей Фёдаравіч Татарынчык – скончыў прыродазнаўчае аддзяленне фізіка-матэматычнага факультэта МДУ. Шэсць гадоў працаваў у Ташкенце, выкладаў фізіку і хімію ў камерцыйным вучылішчы. У 1924 годзе скончыў медыцынскі факультэт Туркестанскага ўніверсітэта, працаваў у гэтай навучальнай установе на кафедры паталагічнай анатоміі.

У 1930 годзе арганізаваў такую ж кафедру ў новым вну Узбекістана – Самаркандскім мединстытуце. У 1931 годзе стаў прафесарам. Памёр у 1941 годзе ва ўзросце 53 гадоў.

Марыя Фёдараўна, скончыўшы пецярбургскую гімназію, стала выкладаць у гэтым горадзе ў адной з жаночых гімназій замежныя мовы, біялогію, у пачатковых класах магла весці ўсе прадметы. Выдатна іграла на піяніна. У сямейным архіве, які захоўвала да свайго зыходу з жыцця яе ўнучка Лімонава Ірына Львоўна (далей архіў ЛІЛ), ёсць фатаграфія 1910 года, на якой Марыя Фёдараўна сфатаграфавана са сваімі выхаванкамі. У 1912 годзе яна здзяйсняе незабыўнае вандраванне ў Францыю, Швейцарыю, Нямеччыну.

У 1914 годзе Марыя Фёдараўна знаёміцца з Барысам Пракаповічам, становіцца яго жонкай. Але шлюб аказаўся нетрывалым. І ў 1919 годзе Марыя Фёдараўна прыязджае ў горад Барысаў. Яе прызначаюць загадчыцай 1-ай школай (І і ІІ ступеняў). На гэтай пасадзе яна працуе да 1922 года, затым, пасля нараджэння дачкі, пераходзіць на настаўніцкую працу, вядзе ўрокі французскай мовы, пры неабходнасці выкладае прыродазнаўства і іншыя прадметы. Пакінула педагагічную працу ў 1954 годзе ва ўзросце 62 гадоў.

У Барысаве адбываецца знаёмства Марыі Фёдараўны са Сцяпанам Піліпавічам Нікіфаровічам, які стаў яе мужам у 1920 годзе.

Нельга не сказаць пра Сцяпана Піліпавіча, бо ён яркі прадстаўнік той эпохі і прыкметная асоба ў горадзе.

Сцяпан Піліпавіч нарадзіўся на хутары побач з в.Вялікае Стахава ў 1890 годзе. Як падрыхтаваўся да паступлення ў Віленскі настаўніцкі інстытут, на жаль, не вядома. Але ў 1912 годзе стаў яго студэнтам, а ў 1916 годзе атрымаў атэстат (архіў ЛІЛ), які сведчыць аб паспяховым заканчэнні гэтага інстытута. Пры гэтым быў удастоены звання настаўніка вышэйшай пачатковай вучэльні.



МИНИСТЕРСТВО НАРОДНАГО ПРОСВѢЩЕНІЯ

**Аттестатъ.**

Отъ Педагогическаго Совѣта Виленскаго учительскаго института, на основаніи ВЫСОЧАЙШЕ утвержденнаго 31 мая 1872 г. Положенія объ учительскихъ институтахъ, выданъ сей аттестатъ воспитаннику учительскаго института Степану Филиповичу Никифоровичу въ томъ, что онъ, при отличномъ поведеніи, оказалъ успѣхи въ

| | |
|---|---|
| Законѣ Божіемъ | весьма удовлетворительные (5) |
| Педагогикѣ и дидактикѣ | весьма удовлетворительные (4) |
| Русскомъ и церковно-славянскомъ языкахъ съ методикой, теоріи словесности, русской словесности и логикѣ | весьма удовлетворительные (4) |
| Математикѣ (ариѳметикѣ, алгебрѣ, геометріи и тригонометріи) съ методикой | удовлетворительные (3) |
| Исторіи съ методикой | удовлетворительные (3) |
| Географіи съ методикой | весьма удовлетворительные (5) |
| Естествовѣдѣніи и физикѣ | весьма удовлетворительные (4) |
| Чистописаніи | – " – " – " – |
| Черченіи и рисованіи | удовлетворительные (3) |
| Пѣніи и музыкѣ | весьма удовлетворительные (4) |
| Гимнастикѣ | весьма удовлетворительные (4) |
| Кромѣ того: Гигіенѣ | – " – " – " – |
| Законовѣдѣніи | – " – " – |
| Космографіи | удовлетворительные (3) |
| Ручномъ трудѣ | удовлетворительные (3) |
| Логикѣ | весьма удовлетворит. (4) |

Вслѣдствіе чего онъ, Никифоровичъ, удостоивается званія учителя высшаго начальнаго училища, на основаніи отд. VII и VIII ВЫСОЧАЙШЕ утвержденнаго 25 Іюня 1912 г. закона о сихъ училищахъ, и, при вступленіи на означенную должность, имѣетъ пользоваться всѣми правами, той должности присвоенными.

Гор. Вильна Смара 13 мая 1916 г.

Предсѣдатель Педагогическаго Совѣта Директоръ Института [signature]

Члены Педагогическаго Совѣта: [signatures]

Секретарь Педагогическаго Совѣта [signature]

Поименованный въ этомъ аттестатѣ Никифоровичъ Степанъ обязанъ прослужить четыре /4/ года въ должности учителя высшаго начальнаго училища, по назначенію учебнаго начальства, за полученное имъ на казенный счетъ воспитаніе въ Виленскомъ учительскомъ институтѣ или возвратить Государственному Казначейству затраченную на его содержаніе сумму четыреста /400/ рублей.

Директоръ Института [signature]

Письмоводитель [signature]

*Атэстат Сцяпана Нікіфаровіча аб заканчэнні ім у 1916 годзе Віленскага настаўніцкага інстытута. Першая старонка атэстата (зверху), тэксты яго другой (злева) і трэцяй (знізу) старонак.*

Прыехаўшы ў Барысаў, выкладаў біялогію ў гарадскіх вучэбных установах. У 1921 годзе на базе трохгадовых педагагічных курсаў у Барысаве быў створаны педагагічны тэхнікум. Сцяпан Піліпавіч Нікіфаровіч – адзін з першых яго выкладчыкаў. Горача захоплены прыродай, краязнаўствам, таксідэрміяй, ён становіцца лепшым выкладчыкам тэхнікума, ініцыятарам шматлікіх цікавых, займальных спраў.

Разам з Васілём Андрэевічам Самцэвічам, якога мы яшчэ не раз успомнім, стварыў у Барысаве краязнаўчы музей. Склаў вялікую калекцыю гербарыяў, чучалаў птушак. Усё гэта выстаўлялася як экспанаты і размяшчалася ў адным з памяшканняў 1-й школы. На жаль, яны знішчаны ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

З 1926 па 1933 год Сцяпан Піліпавіч узначальваў гарадскую краязнаўчую арганізацыю, быў удзельнікам І Усебеларускага краязнаўчага з'езда (1926 год).

У 1921 годзе ў сям'і Нікіфаровічаў нарадзілася дачка Галіна. Сцяпан Піліпавіч вырашае будаваць дом. Недалёка ад педагагічнага тэхнікума (вул. Мікалаеўская, зараз Савецкая) сям'я атрымлівае ўчастак для будаўніцтва і ў 1924 годзе засяляецца ў моцны, дыхтоўны, зручны для працы і жыцця дом. Сцяпан Піліпавіч закладвае яблыневы сад, а ўздоўж вуліцы высаджвае клёны, якія шумяць тут да цяперашніх часоў.

Велізарны яблыневы сад, маляўнічыя кветнікі ўпрыгожвалі ў той час і прылеглыя да тэхнікума ўчасткі. Навучэнцы 20-30-х гадоў успаміналі сад і кветнікі, як незвычайны аазіс, з якога не хацелася сыходзіць пасля заканчэння заняткаў (з успамінаў навучэнкі педтэхнікума Ніны Шумілоўскай, якія захоўваюцца ў музеі педагагічнага тэхнікума). Сёння гэта аддзяленне УА "Барысаўскі дзяржаўны каледж".

У доме маладой сям'і пасяляецца піяніна (знаходзіцца тут дагэтуль), захоўваюцца кнігі на нямецкай, французскай мовах, ноты, альбомы. Тут збіраюцца сябры, блізкія людзі, тут жыве шчасце, музыка, расце дачка.

Галіна рана далучаецца да музыкі, у яе выяўляецца добры музычны слых, яе навучаюць ігры на піяніна, спевам, чытанню – пакуль дома. У першую групу (клас) яна ідзе ў "мамчыну" 1-ю школу. Усе гады навучання ў школе ўдзельнічае ў музычных вечарах, у драмгуртку. Тут старшакласнікі рэпеціруюць "Недалетак", "Гора ад розуму". Жыццё ідзе актыўна, змястоўна.

У 1933 у дом Марыі Фёдараўны і Галіны прыходзіць вялікая бяда: памірае ад тыфу Сцяпан Піліпавіч. Жыццё яго абарвалася ў росквіце, ва ўзросце 43 гадоў. Пахаваны на гарадскіх могілках (Барок).

Галіна Нікіфаровіч скончыла 1 сярэднюю школу ў 1938 годзе, адразу ж паступіла ў Менскі політэхнічны інстытут.

Аглушальная вестка пра вайну заспела Галіну ў Менску. Пешшу на працягу трох дзён яна дабіраецца да роднага дома, з якога Марыю Фёдараўну, яе маму Яўгенію, Галіну немцы, якія ўвайшлі ў горад, выселяць у флігель. У доме паселіцца нямецкі афіцэр. Бабулю Яўгенію будуць хаваць падчас аблавы на яўрэяў, суседзі не выдадуць яе.

Як найвялікшы кашмар вайны жыхары вул. Савецкай будуць перажываць тое, што, пачынаючы ад іх хат, у велізарным квартале, які ўключаў вуліцы Чырвонаармейскую, Загарадную, Студэнцкую, няцотныя бакі вуліц Савецкай і Свабоды, размесціцца габрэйскае гета. 25 ліпеня 1941 года ў ім пачнецца прымусовае размяшчэнне яўрэяў. Больш 8 тыс. жыхароў горада гэтай нацыянальнасці будуць утрымлівацца тут да здзяйснення страшнага акту гітлерызму: расстрэлу іх 20-21 кастрычніка 1941 года.

Галіна не адзін раз будзе сядзець у дрывотні, ратуючыся ад угону ў Германію. Марыі Фёдараўне немцы прапануюць дырэктарстваваць у адной са школ, якія яны адкрылі ў горадзе. Яна адмовіцца. Каб выжыць, будзе збіраць лекавыя травы, абменьваць іх на хлеб, соль, мыла, прадаваць нейкія рэчы. Жанчыны, змучаныя вайной, дачакаюцца вызвалення горада, потым перамогі. Бабуля Яўгенія памрэ ў 1944 годзе. Галіна ў гэтым жа годзе працягне вучобу ў Менску, але ўжо ў БДУ, на хімфаку (БДУ раней іншых вну вярнуўся з эвакуацыі).

У 1946 годзе Галіна Сцяпанаўна вяртаецца ў родны Барысаў з дыпломам выкладчыка хіміі. У яе працоўнай кніжцы зроблены адзіны запіс: настаўнік хіміі 1 СШ, у якой яна прапрацавала больш 30-і гадоў. Дарэчы, як і яе мама Марыя Фёдараўна.

Яшчэ да вайны Марыя Фёдараўна была знаёмая з Аленай Кліменцеўнай Брыгневіч, настаўніцай беларускай мовы і літаратуры 4-й сямігадовай у тыя гады школы. У 1946-47 гадах Алена Кліменцеўна таксама працавала ў 1 СШ.

***(Працяг будзе)***

***Ларыса Белая***

# Натхненне

Лёля Багдановіч

### Дзівосны сон...

Белагрывая мяцеліца
Скача па сумётах.
І мароз у вокны шчэміцца
Ды траічыць ля плоту.

Замятае двор і вуліцу
Завіруха-сцюжа.
Да каліны явар туліцца,
А сняжыкі кружаць...

Танчаць парамі сняжыначкі,
Водзяць карагоды.
Замяла зіма сцяжыначкі
Ліпеньскіх мелодый.

Вабіць казкаю дзівоснаю,
Кліча на спатканне
У стракатае і роснае
Ліпеньскае ранне...

### У нябеснай хатцы...

Свішча вецер у вушах,
Шчэ й мароз кусае.
І мяцеліца пад дах
Гурбы намятае.

Закідала ўсе шляхі,
Сцежкі і дарогі.
Шэрай птушкай небасхіл
Падае пад ногі.

Студзень святкі распачаў,
Дык чаго злавацца?
Месяц зорку цалаваў
У нябеснай хатцы...

Да Вадохрышч ад Каляд
Шлях марозны дужа.
Замятае далягляд
Завіруха-сцюжа...

### Падае снег...

Белая казка зімовая...
Падае лёгкі сняжок.
Коўдраю паркалёваю
Высланы беражок.

Дрэвы стаяць захутаны
У белыя кажухі.
У кайданы закутыя
Вольнай ракі шляхі...

Белая-белая вуліца.
Белым крылом далягляд.
Снежныя гурбы туляцца
Да белагрывых хат.

Гойсае з ранку да вечара
Белай завеі цень.
Студзеньскай белай свечкаю
Млее кароткі дзень...

Сафія Дзенісюк

### Звук гармошки

Запорошены дорожки,
На скамейках рыхлый снег,
И не слышен звук гармошки –
Всё ушло в прошедший век...

На скамейках собиралась
Вся с округи молодёжь:
Пела песни, танцевала,
Каждый праздник был хорош.

Веселились, не скучали,
Звонкий смех стоял окрест,
И чужие приезжали
Выбирать себе невест.

Вся деревня любовалась
Гармонистом молодым,
Я, влюблённая, стеснялась
Оказаться рядом с ним.

Я боялась: все узнают,
Что мечтаю я о нём,
По ночам одна страдаю,
И душа горит огнём.

Он ушёл к моей подружке,
Он «душою к ней прирос»,
Я свою любовь подушке
Отдавала всю до слёз.

Только что-то не сложилась
Скороспелая семья,
Очень скоро загрустила
С ним подруженька моя.

Оказалось, что не может
Быть он верен ей одной,
А измены беды множат,
Но не я тому виной.

Загулялся он и скрылся,
Разговор о нём затих.
Мы с подружкой, всё забывши,
Выходили за других...

Запорошены дорожки.
Зимний сад стоит во сне,
А случайный звук гармошки
Будоражит сердце мне.

Любоў Пятрова

### Шпак і верабей
(байка)

Калі насталі халады,
Прыцiснулі марозы,



І вераб'і, якраз тады,
Спужаліся пагрозы.

Знайшлі прытулак – цёплы кут
У пустой шпаковай хатцы.
Так, за жыццё сваё ім тут
Не трэба хвалявацца.

Як кажуць, дах над галавой,
Ні снег, ні дождж не мочыць.
Шпакі вярнуліся вясной,
А іх пусціць не хочуць.

Яны павінны хутка ўжо
Выводзіць птушанятак.
Не пераблыталі жытло,
Шпакоўня вось, занята!

За свой уласны цёплы кут,
Заняты вераб'ямі,
Ой, нацярпеліся пакут!
Вось памяркуйце самі;

Што там было! І гвалт, і крык!
Ляцела пер'е з пухам.
Апошні верабейка знік.
Шпак ўсё ж мацнейшы духам.

.........................

За любы сэрцу родны кут,
Што з дошак, не з саломы,
І шпак тут зведаў шмат пакут
Ад птушак бессаромных.

### Пра месяц

У зорак запыталася вачыма:
– Навошта вы так зззяеце уначы?
Магчыма, вельмі важная прычына?
Павінны ж зоркі месяц сцерагчы.

Бо ён, свавольнік, гэткі непаседа,
Затое ж мае розны твар у квадрах.
Здзіўляюцца касмічныя суседзі:
"З паўнюсенькай Луны такія "кадры"!

### Старонкі жыцця

Першы снег дробнай крупкай крухмальнай
Пасыпае пясок і траву.
Хутка снежань. З надвор'ем нармальна.
Стан жыцця серабрыць галаву.

З цягам часу мяняецца колер.
Поры года – старонкі жыцця.
Час няўмольна бяжыць пасля школы,
Пачынаючы шлях адкрыцця.

Першы снег, Новы год і калядкі,
Там Вадохрышча; студзень як госць!
Дзень маленькі, а час без аглядкі
Паімчыць, колькі хуткасці ёсць.

Елена Дегтерова

### Не привыкай ко мне

Не привыкай ко мне, не привыкай,
Пусть будут чудом каждый день и вечер,
С привычкой чувства не соизмеряй,
Не погаси бесед сердечных свечи.

Два ангела над нашею судьбой
Бок о бок у священного порога...
Ты душу во Вселенную открой,
Чтобы яснее слышать голос Бога.

Хоть декабри из года в год всё злей,
Сильнее зябнут плечи и колени,
От вероломной суматохи дней
Огороди тепло прикосновений.

Таков расклад – средь миллионов лиц
Нам распознать друг друга выпал жребий.
Поют о нас колокола звонниц
Молитвы и возносят звуки к небу.

Испытанные временем разлуку,
Идём вдвоём к знакомому причалу,
По берегу, не разнимая рук,
Туда, где крики чаек нас венчали.

Нам покорится вышняя ступень,
Неосязаем горизонта край...
Люблю тебя, как любит солнце день,
Ты только к этому не привыкай.

# Трошкі пра тое, што даўно мінула *(1911-1921 гады ў Барысаве)*

*(Працяг, пачатак у №1(214) за 2017 г.)*

## Тое-сёе пра культурнае жыццё горада

Барысаў здаўна быў вядомы як буйны па маштабах Менскай губерні прамысловы цэнтр. Тут ужо ў тыя далёкія гады працавалі папяровая і дзве запалкавыя фабрыкі, лесапільны, шкляны, дрожджавы, шпалапрапітны заводы і шэраг іншых больш дробных прамысловых прадпрыемстваў (усе яны, акрамя шпалапрапітачнага завода, належалі прыватным уладальнікам). Адсюль вынікае, што сярод насельніцтва горада значную праслойку складаў прамысловы пралетарыят, было няшмала служачых фабрык і заводаў. Да гэтага неабходна яшчэ дадаць невялікі атрад чыгуначнікаў станцыі Барысаў, настаўнікаў пачатковых і сярэдніх навучальных устаноў, служачых гарадскіх установаў, рамеснікаў. Жылі, безумоўна, у Барысаве фабрыканты і заводчыкі, гандляры, чыноўнікі ўсіх рангаў, паліцэйскія чыны, на чале з небезвядомым спраўнікам Сарокіным.

Не ўсе, разумеецца, цікавіліся пытаннямі культуры, мастацтвам. Але ў перадавой частцы працоўнага класа, у прадстаўнікоў інтэлігенцыі такая зацікаўленасць, безумоўна, існавала. На жаль, не так багаты быў Барысаў установамі культуры. Акрамя розных навучальных устаноў, кожная з якіх з'яўлялася хаця б невялікім, але ўсё ж культурным цэнтрам (пра іх падрабязней будзе расказана далей), у Барысаве ў тыя гады функцыянавалі кінатэатры "Гігант" і "Люкс" і былі два грамадскія сходы (зараз іх назвалі б клубамі). Калі кінатэатры былі даступны для кожнага жыхара горада, то грамадскія сходы былі адкрыты для наведвання далёка не для ўсіх жадаючых. У апошніх час ад часу ладзіліся спектаклі і канцэрты, танцы і касцюміраваныя вечары, там можна было згуляць у більярд.

У Барысаве даволі актыўна дзейнічалі два драматычныя гурткі – адзін у цэнтры горада, другі ў Новабарысаве. Новабарысаўскі драматычны гурток складаўся ў асноўным з настаўнікаў і чыгуначных служачых. Спектаклі ставіліся або ў будынку грамадскага сходу, або ў кінатэатры "Люкс", дзе была дастатковая па памерах і надрэнна абсталяваная сцэна. А разы два спектаклі ішлі ў велізарным памяшканні аднаго з будынкаў вайсковых казармаў.

Акрамя малазмястоўных п'ес малавядомых аўтараў новабарысаўскі драмгурток паставіў на сцэне некаторыя драматычныя творы рускай класічнай літаратуры. Такія, напрыклад, як "Гора ад розуму" Грыбаедава, "Рэвізор" Гогаля, "Бяднота не загана" Астроўскага, "Вяселле Крэчынскага" Сухава-Кабыліна. Ішла на сцэне кінатэатра "Люкс" і папулярныя ў тыя гады апярэтка "Іваноў Павел". Усе спектаклі карысталіся нязменным поспехам у гледачоў.

У 1920 годзе, пасля выгнання белапольскіх акупантаў, Новабарысаўскі аматарскі драмгурток стаў дзейнічаць у якасці драматычнага калектыву пры агітпункце станцыі Барысаў (агітпункт станцыі Барысаў уваходзіў у склад агітпункта Заходняга фронту). Члены драматычнага калектыву атрымлівалі чырвонаармейскі паёк і грашовае ўзнагароджанне. Спектаклі ішлі амаль штодзённа, калі-нікалі нават па два разы на дзень. Яны рабіліся спецыяльна для вайсковых частак, якія па чыгунцы рухаліся на захад, каб далучыцца да войскаў, якія здзяйснялі наступальныя аперацыі пад лозунгам "Даеш Варшаву!".

Трэба было бачыць, з якой цікавасцю глядзелі чырвонаармейцы нашы выступленні. Шмат хто з іх упершыню прысутнічаў на тэатральных прадстаўленнях. Калі паказвалася штосьці смешнае, у зале раздаваўся гучны-гучны смех. А то наступалі моманты, калі гледачы, якія толькі што весела смяяліся, замаўкалі і наступала поўная цішыня. Закрываўся апошні раз занавес – і ўспыхвалі бурныя, доўга не змаўкаючыя апладысменты, раздаваліся прывітальныя воклічы. Прыемна было адчуваць, што мы прыносім нашым незбалаваным, па-сяброўску настроеным гледачам сапраўдную радасць.

Перад спектаклем заўсёды арганізоўваўся мітынг, на якім выступалі агітатары, тлумачылі міжнародную абстаноўку, інфармавалі пра палажэнне на франтах. Кожны спектакль нязменна завяршаўся спяваннем "Інтэрнацыянала". Спявала ўся зала разам з артыстамі, якія сталі на сцэне ў грыме і тэатральных касцюмах.

У першыя ж гады пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі культурнае жыццё ў Барысаве незвычайна актывізавалася. Пры фабрыках і заводах сталі з'яўляцца клубы, у іх пачалі працаваць розныя гурткі. Асабліва варта адзначыць драматычны гурток пры запалкавай фабрыцы ў Новабарысаве. Там былі добрыя арганізатары, якія адразу змаглі паставіць на неабходны ўзровень працу гэтага самадзейнага калектыву. Запомніліся таксама спектаклі аматарскіх драмгурткоў і артыстычных калектываў, якія існавалі пры вайсковых частках, што дыслацыраваліся ў Барысаве. Сталі прыязджаць сюды на гастролі тэатры з іншых гарадоў. Прыязджаў нават Малы тэатр з Масквы, у рэпертуары якога была толькі што пастаўленая п'еса Трэнева "Любоў Яравая". Гастраліравалі ў Барысаве адзін з братоў Адэльгеймаў. Выступаў аднойчы ў "Люксе" вядомы артыст Яхантаў з чытаннем твораў А.С.Пушкіна. І гэта, безумоўна, далёка не ўсё: культурная рэвалюцыя, якая распачалася ў краіне, знайшла сваё рознабаковае праўленне і ў нашым Барысаве.

*(Працяг будзе)*

*Уладзімір Раманінаў*

# Так было... *(ідавочцы ўспамінаюць Вялікую Айчынную вайну)*

*Успаміны Яўгенія Людвігавіча Марцінкевіча, 1933 года нараджэння. У даваенны час пражываў у горадзе Барысаве ў прыватным доме па вуліцы 8-а Сакавіка.*

Да вайны наша вялікая сям'я жыла ў доме, які стаяў на перакрыжаванні вуліц 8-а Сакавіка і М.Горкага. У майго бацькі Людвіга Антонавіча Марцінкевіча (г.н. 1908) і мамы Анфісы Мікалаеўны (г.н. 1908) было шасцёра дзяцей. Па суседстве жылі дзядуля Антон і бабуля Міхаліна. Антон Вікенцевіч Марцінкевіч быў родам з барысаўскай вёскі Судоль. За сваё жыццё пабачыў многае. Працаваў на Пуцілаўскім заводзе Санкт-Пецярбурга, удзельнічаў у руска-японскай і Першай сусветных войнах, а ў Грамадзянскую дзядулю ледзь не пакаралі смерцю калчакаўцы. За выдатную службу быў узнагароджаны трыма Георгіеўскімі крыжамі і імянным залатым гадзіннікам фірмы Паўла Бурэ з вензелем цара Мікалая II. У 1922 годзе Антон Вікенцевіч з жонкай абгрунтаваліся ў Барысаве.

У нашым квартале пражывалі Марцінкевічы (пяць сем'яў), Станкевічы, Ляўкі, Фомкіны, Тартышавы, Кутневічы, Аляхновічы, Рогавы, Тарасевічы, Паўловічы, Макацэрчыкі, Максімовічы, Фёдаравы, Шахаўцовы, Сямашкі, Сідаравы, Фірагі, Бабіцкія, Назаравы, Бяганскія, Авечкіны, Бараноўскія. Палова з гэтых сем'яў знаходзілася з намі ў блізкім і далёкім сваяцтве, альбо прыходзілася швагрaмі. Суседзі вельмі сябравалі між сабой. Старэйшае пакаленне любіла збірацца ля нашага дома. Мая мама, валодаючы голасам дзіўнай прыгажосці, выдатна спявала. Завядзе песню, а ёй падпяваюць суседкі. У жаночы хор часам упляталіся мужчынскія галасы. Відовішча дзівоснае! Людзей збіралася сотні, можа і больш. А мы падлеткі гулялі ў "лапту" і "ганялі" галубоў, якіх трымалі амаль усе хлапчукі.

Негатыўнае стаўленне да ворагаў нашай Радзімы склалася ў мяне ў раннім узросце, чаму ў немалой ступені спрыялі патрыятычныя песні, аповеды чырвонаармейцаў, якіх сярод нашай радні было нямала, а таксама гутаркі з піянерамі. Дзякуючы дзяўчынкам з сям'і Макацерчыкаў я ў пяцігадовым узросце ўжо навучыўся чытаць. Яны, бышы студэнткамі і вучаніцамі старэйшых класаў, гулялі са мной, нібы з лялькай, навучыўшы пісьму і лічэнню. Я прачытаў кнігі пра буржуяў, пра цімураўцаў. Памятаю, калі мне было гадоў пяць, у Барысаў прыехалі артысты. Яны паказвалі спектакль пра барацьбітоў за правы працоўных Сака і Ванцэці, пакараных па прысудзе амерыканскага суда. Пастаноўка дэманстравалася ў самім вялікім і прыгожым доме пад назовам "Люкс", дзе размяшчалася гасцініца, крама, рэстаран і тэатр. Спектакль зрабіў на мяне ўзрушаючае ўражанне. Я ішоў дадому і ўсю дарогу плакаў, задаючы пытанні: "Навошта? Чаму? За што?". Мама аблаяла бацьку, што ўзяў мяне з сабой. Бацька быў беспартыйны, але па перакананнях камуніст. Ён выразна і даходліва абмаляваў карціну. У найбагацейшай краіне галадаюць людзі нягледзячы на тое, што ў крамах багацце. Капіталісты плацяць працаўнікам вельмі мала і працоўныя не могуць сабе нічога купіць. Да таго ж заводы зачыніліся і людзі пазбавіліся сродкаў да існавання. У абарону бяздольных выступілі камуністы, якіх буржуі бязлітасна пакаралі смерцю. Тата сказаў мне: "Не плач, сынок, праўда пераможа, перамога будзе за камуністамі". І я сказаў, што стану камуністам. Вялікая Айчынная вайна толькі ўмацавала мае погляды.

Пачалася вайна раптам. Падзеі развіваліся настолькі імкліва, што людзі проста не ведалі, што зрабіць, як паступіць. У горадзе адбывалася тэрміновая эвакуацыя дзяржаўных устаноў і маёмасці, іншага. Чыгунка была забіта эшалонамі, ідучымі на ўсход, а ў заходнім кірунку ішлі эшалоны з войскамі. Моладзь пайшла ў раённы ваенкамат, які да таго часу паспеў эвакуіравацца. Людзі пешшу накіраваліся ў Оршу. Па дарозе да іх далучылася моладзь з Крупак і Талачына. Аднак у Оршы ваенкамата таксама не было. Сотні барысаўскіх, крупскіх, талачынскіх хлопцаў змушаныя былі вяртацца назад. Па дарозе дадому іх атачылі нямецкія матацыклісты і пагналі ў Германію. Палоннымі сталі няўзброеныя грамадзянскія людзі, якія не прынялі яшчэ ваеннай прысягі. Сярод іх знаходзіўся стрыечны брат майго бацькі Ігналь (памяншальнае ад імя Ігнат. – А.Б.) Марцінкевіч.

Пасля страшнай бамбёжкі Барысава нямецкай авіяцыяй гараджане пабеглі ў вёску. Муж татавай стрыечнай сястры Паліны Міхась Жуковіч (быў дырэктарам барысаўскага прадпрыемства "Камінтэрн") на грузавіку вывез нас на радзіму дзядулі ў Судоль. У кузаве знаходзілася чацвёра дзяцей Тартышавых, шасцёра дзяцей Марцінкевічаў (я, браты і сёстры), трое дзяцей татавага брата Міхася, сямёра Станкевічаў і трое Ляўкоў. У Судолі гэтая маса дзяцей разам з дарослымі размясцілася ў нейкай адрыне. А чым карміць дзяцей – ніхто не падумаў. Вырашылі вярнуцца дадому. Пад'язджаючы да Барысава, наш транспарт спынілі адыходзячыя чырвонаармейцы, якія сказалі, што ў горадзе немцы. Бацькі ледзь угаварылі камандзіра прапусціць нас. Праехалі ўвесь Барысаў і ні аднаго нямецкага салдата не ўбачылі. Акупанты з'явіліся праз два



*Яўген Людвігавіч Марцінкевіч (здымак 1955 г.). Фота з сямейнага архіва.*

дні. Спачатку чуўся бой у раёне аўтастрады Менск-Масква, а каля 15 гадзін дня на вул. М.Горкага з'явіўся танк з жоўта-чорнымі крыжамі ў суправаджэнні матацыклістаў. Рухаліся павольна, часта спыняючыся. Так скончылася для мяне шчаслівая пара дзяцінства.

З захопам Барысава наступіў хаос. Рабавалі, развалакалі ўсё. Па вуліцы Паштовай, на месцы сённяшняга рынка, раней знаходзіліся харчовыя склады. Барысаўцы назапасіліся там нядрэнна. Мама позна даведалася пра гэту "прыхвацізацыю" і прынесла дадому ўсяго тры мяшкі сухароў, якія затым без астатку былі раздадзеныя савецкім ваеннапалонным. Ленінская вуліца таксама "ўпіралася" у склады, дзе захоўвалася розная ваенная маёмасць: адзежа і абутак, лыжы, процівагазы. Памятаецца, Эдзік Паўловіч (1929 г.н.) нацягаў сабе гэтулькі лыж, што хапіла на продаж і пасля вайны. Мне падарыў адну пару. Пеця Марцінкевіч і Лёня Лаўрыновіч падарылі маім дзядулі з бабуляй па пары валёнак, а мне процівагаз, каб рабіць рагаткі для стральбы па вераб'ях.

Ля чыгункі, дзе цяпер аўтарынак, да якога выходзіць вуліца М.Горкага, знаходзіліся прамтаварныя склады. Я асабіста прысутнічаў пры іх разграбленні. Лёня Лаўрыновіч пайшоў туды, а я ўвязаўся ўслед. Там ужо стаяў велізарны натоўп. Цягнулі ўсё, што маглі. Лёня сказаў, каб я заставаўся на месцы і нікуды не адлучаўся. Неўзабаве ён прынёс мне кепку, поўную флаконаў парфумы, цюбікаў губной памады і іншых цацанак, якія я раздаў дарослым дзяўчатам. Немцы склады зачынілі, але яны прастаялі нядоўга. Пазней іх спалілі барысаўскія камсамольцы-партызаны. Мне стала пра гэта вядома з гутарак Лёні і яго сяброў. Яны называлі прозвішчы і імёны герояў, але за даўнасцю гадоў яны пазабываліся. Група коннікаў уварвалася ў горад з боку вакзала. Здзейсніўшы рэйд па Барысаве, пакінулі за сабой вогнішчы. Падпалілі шматлікія аб'екты, уключаючы нафтабазу. каля макароннай фабрыкі падпалілі велізарны капец пшаніцы, якая гарэла цэлы месяц. Людзі цягалі падгарэлыя зерні дадому. Бабуля, мама, старэйшая сястра і я хадзілі па пшаніцу двойчы ў дзень. Спачатку гарэлых зерняў было мала, а затым – наадварот: цэлых зерняў засталося трохі, а большасць асмалілася. Праз тыдзень пасля ўсеагульнага пагрому я з сябрамі схадзіў на Вялікую вуліцу (так барысаўцы звалі праспект Рэвалюцыі). Крамы ўяўлялі жудасную карціну. Усярэдзіне ўсяго перамяшана і перакручана. Памятаю, у кнігарні я набраў кніжак з малюначкамі, альбомы з адбіткамі салдацкіх ботаў, акварэльныя фарбы, алоўкі.

***(Працяг будзе)***

***Падрыхтаваў да друку Аляксандр Балябін,***
***гісторык-археограф ДУК "Барысаўская цэнтральная раённая бібліятэка імя І.Х.Каладзеева"***

# Адтуль, з далёкай зімы ў Мётчы... Успаміны-нататкі пра Рыгора Барадуліна

***(Працяг, пачатак у №12(213) за 2016 г., 1(214) за 2017 г.)***

Але вялікая бацькава цяга да жыцця, да рэчкі, лесу і коней ці не з'явіліся ў тыя пасляваенныя гады лепшымі прыроднымі лекамі. Ці не таму, як удала заўважыў Янка ў адным саім вершы:

*Імглісты прысак ледзь ліпеў,*
*На ўзмежку пасвіліся коні.*
*Мой бацька спаў, а я сядзеў*
*Забыўшыся зусім на стому.*

*І цені коней над ракой*
*Мой зірк цягнулі, чаравалі.*
*Святая ноч, святы спакой*
*Памалу ў вечнасць адплывалі.*

У 1970 годзе я вучыўся на першым курсе філалагічнага факультэта БДУ. І калі на выходныя ці ў канікулы вячэрнім аўтобусам вяртаўся з горада ў родную вёску, то адразу з аўтобуснага прыпынку бег ў лясны засценак Ваўкаўня, дзе бацька ў начным пасвіў коней. Мы тады прыладжваліся з ім ля вогнішча, нас вакол акружалі, ратуючыся ад камароў, астроўскія коні. Я расказваў і расказваў бацьку пра Мінск, студэнцкія навіны. Пра тое, што ў будучым годзе нашаму ўніверсітэту спаўняецца 50 гадоў. Таму з гэтай нагоды літаратурны гурток пад кіраўніцтвам Вячаслава Рагойшы стварае ўнікальную працу – альманах "БДУ і беларускія пісьменнікі". Мне пашанцавала на імёны Івана Навуменкі, Івана Пташнікава, Генадзя Бураўкіна і Рыгора Барадуліна. Неабходна было сустрэцца з гэтымі ўжо тады вядомымі пісьменнікамі і напісаць пра іх адпаведныя артыкулы.

Памятаю, бацька ўважліва слухаў мой аповед пра сустрэчы з гэтымі майстрамі беларускага слова. Асаблівую цікавасць ён праявіў да паэта Рыгора Барадуліна (бо ён быў яму амаль зямляк – барадулінскія Вушачы не такія ўжо далёкія ад нашых мясцін). Я расказваў яму пра тое, як у кастрычніку 1970 года ў адным з кабінетаў часопіса "Полымя" ўпершыню пабачыў задуменныя і блізкія вочы паэта. Яны ўглядаліся ў сямнаццацігадовага крупскага юнака, а рука працягвала мне прыгаршчу смакотных арахісавых арэхаў.

...Позірк мой адрываецца ад ліста паперы, я зноў бачу з партрэта на сцяне музея вочы Рыгора Барадуліна, што, як узышлі ў далёкім 70-ым годзе над маім жыццём, так і засталіся назаўсёды. Гэта вочы бацькі, старэйшага сябра, вочы разумніка і гарэзнага весялуна, вочы дабрэйшага на зямлі чалавека. Ці не таму на зямлі мне сёння светла?

Святло барадулінскае прысутнічала і прысутнічае ў маім жыцці не толькі ад захаплення яго творчасцю. Многа таго святла было і засталося ад сустрэч з паэтам у пакоях яго мінскіх кватэр на вуліцах Рэспубліканскай і Івана Мележа.

Пад час майго першага візіта Рыгор Барадулін жыў у доме над рэстаранам "Нёман", што месціўся ля кінатэатра "Беларусь". 27 лістапада 1971 года, 11 гадзін раніцы. Цісну на званок, доўга не адчыняюцца дзверы. Нарэшце, са сну яшчэ, не ў самым лепшым настроі, эмацыянальна "ушчуваючы" хатняга ката, якому не пашанцавала апынуцца пад нагамі, перад васямнаццацігадовым ўчарашнім вясковым юнаком мітусліва і з выбачэннямі ўзнікае Рыгор Барадулін (ў 1971 годзе яму было ўжо 36). Праз многа гадоў я неяк унік у гэтыя лічбы і зрабіў для сябе адкрыццё: ва ўсім 45-гадовым сяброўстве такое, каб паэт быў старэйшы са мяне роўна ў два разы, здарылася толькі аднойчы і менавіта ў 1971 годзе.

У той дзень напачатку быў снядaнак. Дружна сядзелі за сталом Рыгор Іванавіч, Валянціна Міхайлаўна, Таццяна Харлампіеўна (маці жонкі паэта), дачка Ілонка і, канешне, вельмі саромеючыся, я. Да чаю было бісквітнае пячэнне. Ці не ўпершыню мною паспытанае. Потым у рабочым кабінеце я доўга распытваў і слухаў паэта. Паўнацэннай гутарцы перашкаджала мая прыродная сарамлівасць. Ужо на развітанне, калі паэт падпісваў свае кнігі, то на выданні "Библиотечка избранной лирики Рыгора Бородулина" (издательство ЦК ВЛКСМ " Молодая гвардия", 1969г. ) ён пазначыў: "Дарагому Уладзіміру на вясёлы ўспамін аб сумным інтэрв'ю! Рыгор, 27. XI. 71г. ".

У той жа дзень на кнізе "Неруш" ім былі пакінуты святыя для мяне радкі:

*Хай шчасця*
*хітрая падкова*
*Заўсёды будзе*
*ў Лайкова!*

А кніга "Лінія перамены дат" захавала наступны аўтограф:

*Лайкоў*
*Не з племя лайдакоў,*
*Шчыруе ўсё*
*Валодзя.*
*Жадаю*
*залатых радкоў,*
*Са шчасцем*
*быць у згодзе!*

Тады ж Рыгор Барадулін пакінуў на кнізе "Рунець,красавацъ,наліваццa" такі надпіс: *"Жадаю рунець,красаваць,налівацца Уладзіміру Лайкову. "*

Яскрава ўспамінаецца год 1973. Неяк надвячоркам зайшоў да Рыгора Іванавіча на Рэспубліканскую,а там у гасцях малады лейтэнант,ён жа паэт Сяргей Панізнік. Цікавая і доўгая, нават з чытаннем вершаў,зайшла тады размова. На развітанне Рыгор Іванавіч падпісаў мне кнігу "Вяртанне ў першы снег": *"Любы Ўладзімір – няхай жыве Ўсходняя!"* і зборнік гумарыстычных вершаў "Журавінка": *"Валодзя! Не жаніся на журавіны!".*

Праз многа гадоў мой сын Янка падаруе музею "Літаратурны космас Мётчы" кнігу Сяргея Панізніка "Пры свячэнні..." з наступным аўтографам: *"Вогнепаклонніку Янку Лайкову ад мечніка-рубанаўца Сяргея Панізніка. У Менску 16. XI. 2009. ".*

А ў самы сумны дзень 2014 года 4 сакавіка мы ўсёй сям'ёй ідзём у раёне мінскай Малінаўкі да станцыі метро, каб паехаць у касцёл святых Алены і Сымона на развітанне з Рыгорам Барадуліным. На вуліцы сустракаемся з Сяргеем Панізнікам. Праз 41 год пасля нашай першай у жыцці сустрэчы. І сустрэчу гэту,як ні сумна казаць, прыдумаў Рыгор Іванавіч. Бо і Сяргей Панізнік таксама спяшаецца на адпяванне і пахаванне паэта.

Працягваю гартаць у памяці старонкі нашых колішніх стасункаў з самым, можа, лагодным паэтам на зямлі. У той жа час неадступна ідуць следам барадулінскія радкі, перастворaныя Эдуардам Зарыцкім на музыку і бліскуча выкананыя спеваком Якавам Навуменкам, якія феерверкам потым успыхнулі з дапамогай маэстра Міхаіла Фінберга і яго Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі:

*Доля праедзе*
*ў дрогкай карэце,*
*Следам пасцелецца дым.*
*Хай жа на гэтым*
*Сустрэнемся свеце*
*Перад сустрэчай на тым...*

Зноў і зноў працягваюць усплываць тыя заўсёды хвалюючыя сустрэчы на гэтым свеце. 24 лютага 1975 года. 40 гадоў Рыгору Барадуліну. З аднакурснікам Сашам Марковічам (светлая яму памяць,14 гадоў таму адышоў з жыцця;я яшчэ за месяц да таго паспеў павіншаваць яго з 50-годдзем і нават надрукаваць у газеце "Звязда" за 30 сакавіка 2002 года невялікі артыкул з фотаздымкам "Аднакурснікі") дамаўляемся вечарам без усялякага запрашэння з'явіцца дома ў Барадуліна на гэты юбілей.

Перад тым у адной мінскай краме купілі сувенірны аловак (сантыметраў сорак даўжынёй і да трох сантыметраў у дыяметры), а таксама я выпрасіў у свайго дзядзькі-бібліяфіла Курчова Уладзіміра Апанасавіча зборнік "Наша ніва" 1907 года выдання. І вось вечарам падымаемся са сваёй Нямігі, з інтэрната тады яшчэ на Паркавай уверх на Рэспубліканскую. Нарэшце дом, і вось ужо сёмы паверх! Хвалюемся. Дзверы адчыняе юбіляр. Бачым і чуем гасцей. Перапрашаем свой нязваны прыход, але ўсе вясёлыя, усе мітусяцца. Мы за сталом. Вясёлая і гаманкая Валя, Валянціна Міхайлаўна,жонка паэта. Уладзімір Караткевіч, Адам Мальдзіс, Ванкарэм Нікіфаровіч, Карлас Шэрман,Васіль Зуёнак, Юрый Пушкароў. Іх жонкі, сяброўкі.

***(Працяг будзе)***
***Уладзімір Лайкоў***

# Дзень адкрытых дзвярэй

*2017 год з'яўляецца юбілейным для адной з найстарэйшых арганізацый Беларусі – 25 красавіка спаўняецца 145 гадоў Рэспубліканскаму дзяржаўна-грамадскаму аб'яднанню "Беларускае рэспубліканскае таварыства ратавання на вадзе" (ТРВАД).*

Напярэдадні гэтай юбілейнай даты ў апорнай дашкольнай установе ДУА "Яслі-сад №11 г. Барысава" па фармаванні асноў бяспекі жыццядзейнасці 20 студзеня праводзіўся дзень адкрытых дзвярэй, прысвечаны пытанню бяспекі на вадзе і лёдзе.

Перад пачаткам мерапрыемства госці і ўсе прысутныя маглі азнаёміцца з выставай сумесных творчых работ выхаванцаў і іх бацькоў. Таксама ўвазе госцяў быў прадстаўлены кансультатыўны матэрыял.

Дзень адкрытых дзвярэй пачаўся з правядзення ў старэйшых групах віктарыны "Бяспечны вадаём" (выхавальнік А.Жуга) і тэматычнага занятку "Каб не патрапіць у бяду, выконвай асцярожнасць на вадзе і лёдзе" (выхавальнік Л.Лешчанка)

Выхаванцы замацавалі свае ўяўленні аб вадзе ў розных станах, правялі міні-вопыты з вадой, вырашалі розныя праблемныя сітуацыі і, самае галоўнае, у чарговы раз паўтарылі правілы бяспечных паводзін на лёдзе.

Падчас спартовага свята, у якім удзельнічалі выхаванцы сярэдніх (выхавальнікі Н.Мароз і А.Шыла) і старэйшай (выхавальнік А.Аўчыннік) груп, хлопцы і дзяўчаты ўспомнілі правілы бяспечных паводзін на вадзе і лёдзе, замацавалі спосабы аказання першай дапамогі пацярпелым, якія правaліліся пад лёд, прадэманстравалі свае навыкі і ўменні падчас спартовых эстафет. З цікавасцю паглядзелі інсцэніроўку казкі "Умей пачакаць". Дзяўчынкі сярэдняй групы выканалі для ўсіх прысутных танец "Снежныя матылі".

У завяршэнні свята выхаванцам былі ўручаныя памяткі аб бяспечных паводзінах на лёдзе.





*У час правядзення дня адкрытых дзвярэй.*

***Ларыса Бандарчык,***
***старшыня першаснай арганізацыі ТРВАД ДУА "Яслі-сад № 11 г. Барысава"***

# Да 80-годдзя Леаніда Рашкоўскага

*Наша газета працягвае друкаваць старонкі з дзённіка Леаніда Рашкоўскага. Пачатак гл. у №1(214) за 2017 год.*

У хуткім часе вёску занялі немцы, а ў доме Фрузы памясціліся некаторыя з іх, а ў хляве быў зроблены конны лазарэт. На шчасце, "кватэранты" былі спакойнымі і без схільнасці да падазрэнняў. І Фруза па начах дагледжвала хворага, прыносіла яму есці. Праз нейкі час мясцовасць была вызвалена ад фашыстаў, і хлопец змог перайсці ў дом. Стан яго быў цяжкім. Ён зусім не мог дзейнічаць параненай нагой. Неяк Фруза, даведаўшыся, што яго радзіма ўсяго ў сямі кіламетрах ад вёскі, вырашыла, што хвораму будзе прыемна, калі яго будзе дагледжваць хтосьці з родных і выклікала яго маму. Калі маці падала сыну прыгатаваную ёю ежу, ён адкінуў талерку і заявіў, што будзе есці толькі ежу прыгатаваную Фрузай. І Фруза працягвала дагледжваць хлопца. У хуткім часе хлопец пачаў папраўляцца і аднойчы, саромячыся, папрасіў Фрузу ўзяць яго з сабой на вечарынку. Так ён ужо амаль паправіўся.

Раптам ён атрымаў паведамленне (гэта было напрыканцы вайны), што яго брат загінуў на фронце. І хлопец захацеў адпомсціць за брата. Але ваенкамат прызнаў яго непрыдатным для нясення воінскай службы і адмовіў у хадайніцтве аб адпраўцы на фронт. Але настойлівы хлопец нейкім цудам усё ж трапіў на фронт. Былі ўжо апошнія баі, якія ішлі на тэрыторыі Германіі. Хлопец помсціў. Відавочна, ён храбра і самаахвярна змагаўся з захопнікамі. Гэта ён разам з яшчэ некалькімі салдатамі ўстанавіў савецкі сцяг над рэйхстагам і быў узнагароджаны Залатой Зоркай. Але пры гэтым ён быў цяжка паранены ў галаву і застаўся памешаным.

Зараз гэты герой, які з'ехаў з глузду, жыве ў сваім родным сяле ўсімі забыты і нікому не патрэбны. Ці так гэта? Відавочна, так.

Учора ж атрымаў ліст ад Віцькі С[3]. Піша як заўсёды з пафасам і стараецца здавацца арыгінальным, але гэта яму рэдка ўдаецца. Адпачынак у яго ў жніўні. І я рады буду ўбачыць яго дабрадушную "морду".

А сёння чуў па радыё, што мой курс здаў дзяржэкзамены і 50 чалавек просяць накіраванне на цалінныя землі. Шчаслівага шляху і поспехаў у працы, сябры!

## 8 красавіка 1961 г. (субота)

Сёння цёпла, але вільготна. Імжэў цёплы дождж. І хаця цёпла, але ахвота пакурчыцца. Напісаў ліст Віцьку С.З Павіншаваў яго з днём нараджэння. Трэба яшчэ напісаць Яшку А.[4]

Сёння паспрабую умацоўваць сваю раслiннасць на галаве. Міша ўчора прынёс ад Фрузы галінку палыну. І мама паставіла яе кіпяціць. Вечарам паспрабую гэты лекавы сродак. Акрамя палыну Міша прынёс ад Ф. некалькі рэцэптаў рыжскага гамеапата: на апетытны праснак, наборы траў для сну і для лячэння рассеянага склерозу.

## 9 красавіка 1961 г. (нядзеля)

Сёння з раніцы напісаў начарна ліст у Балгарыю наконт інхабелапарціна і лячэння рассеянага склерозу. Няблага б заўтра перапісаць ліст начыста і адаслаць. Вечарам у мяне сабраліся рабяты: С.Грэсель[5], Л.Кліменценка[6], Воўка з Валяй[7] і А.Плаўнік[8]. Гаварылі аб абстракцыі, аб кібернетыцы, аб Бідструпе, аб Ільфе і Пятрове, аб Японіі і яе культуры, аб культуры наогул і яшчэ шмат "кое о чём". Я прапанаваў сябрам ідэю стварыць свой моладзевы клуб, які ўпрыгожыць нудны дасуг кожнага з нас. Гэтая думка ўсім спадабалася, але вырашылі, што для таго, каб ідэю ажыццявіць, неабходна добра прадумаць і падрыхтаваць канкрэтны план. Гэта так. Але я запаліўся гэтай ідэяй. Калі хто-небудзь з рабят сур'ёзна мяне падтрымае, можа нешта і выйдзе. Бо гэта вельмі карысна і цікава, калі збіраюцца разам маладыя людзі, у якіх ёсць агульныя інтарэсы.

## 10 красавіка 1961 г. (панядзелак)

Ноччу спаў дрэнна і падняўся позна. Выйшаў на брэх сабакі ў двор – стаіць стары. Аказваецца, гэта мой госць – бацька Шуры Карповіч, з якой мы разам лячыліся ў бальніцы. Ш. прыслала яго праведаць мяне. Стары прынёс кулёк цукерак і доўга мяне аба ўсім распытваў. Ён баптыст і выглядае зусім бяскрыўдным і жадаючым усім дабра чалавекам. Ён некалькі разоў выражаў мне свае сімпатыі і ўгаворваў мяне не жаніцца. На развітанне ён выявіў жаданне мяне пацалаваць, а я перадаў для Ш. шакаладную бутэлечку з каньяком.

## 11 красавіка 1961 г. (аўторак)

Сёння цудоўны сонечны дзень. З раніцы ў пакой хлынулі вясёлыя промні сонца і ўсялілі ў мяне часцінку сваёй энергіі. Паветра чыстае і празрыстае. Хочацца спяваць. І я спяваю. Паспрабаваў напісаць сатырычныя куплеты да групавога вечара. Напісаў аб П.Шкрэдзе і Юрку В. Больш "думак" няма ў галаве. А шкада. Хочацца што-небудзь зрабіць для вечара. Бо ўсе ўзяліся за падрыхтоўку з энтузіязмам.

Практыку па інфекцыі прапусціў, але на занятку паеду.

## 12 красавіка 1961 г. (серада)

Сёння сонечна, але халаднавата. Люблю сонечныя дні! Вельмі часта надвор'ю адпавядае і настрой. Так і сёння. У 10 гадзін 3 хвіліны было перададзена па радыё паведамленне ТАСС. Сёння ўпершыню ў свеце на ракеце "Усход" у космас паляцеў мой суайчыннік – маёр авіяцыі Юрый Гагарын. Нарэшце ажыццявілася мара Цыялкоўскага. Хаця я ведаў, што хутка чалавек паляціць у космас (бо было зроблена шмат выпрабавальных палётаў у космас), але ўсё ж сённяшняе паведамленне аказала на мяне нейкае непаўторнае, проста-такі магічнае ўздзеянне.

Гэтае паведамленне я ўспрыняў да смешнага ўрачыста. Вось і адкрыты шлях у космас.

І, відавочна, ужо хутка можна будзе набыць білет па маршруце Зямля-Месяц, каб праз кароткі прамежак часу прымаць месяцовыя ванны. Гэта грандыёзна!

## 13 красавіка 1961 г. (чацвер)

Красавік ў гэтым годзе паказвае фокусы. Толькі ўчора было цудоўнае сонечнае надвор'е, а сёння снег. За ноч снегам пакрылася зямля, а ён усё сыпле і сыпле. Хаця б такое надвор'е не адбілася на плоданашэнні фруктовых дрэў. Калі ж, нарэшце, прыйдзе цёплая, сонечная вясна?!

Сенсацыі пра ўчарашні касмічны палёт, не паспяваючы паступаць, ужо старэюць. Усе ўжо ведаюць падрабязную біяграфію Юрыя Гагарына, водгукі пра яго сяброў і знаёмых. Бясконца перадаюцца віншавальныя тэлеграмы і лісты. Радыё гаворыць пра гэтую падзею бесперапынна. Усе раней намечаныя праграмы радыё і тэлебачання на бліжэйшыя дні тут жа перамяняліся.

Што і гаварыць, адбылася падзея №1.

Чалавек стаў бессмяротным! Пра гэта сказаў Хрушчоў.

***(Працяг будзе)***
***Леанід Рашкоўскі***

*3. Віцька С. – С.П.Стрыгуцкі – кандыдат фізіка-матэматычных навук, сябар.*

*4. Яшка А. – хутчэй за ўсё, стрыечны брат.*

*5. С.Грэіль – Сямён Грэіль – аднакласнік.*

*6. Л.Кліменценка – аднакласнік.*

*7. Воўка з Валяй – муж і жонка Палякоўскія.*

*8. А.Плаўнік – Аркадзь Плаўнікаў – аднакласнік.*

# Хто ж прыдумаў каляндар?

*Калі зойдзеш у кнігарню, то пабачыш там мноства календароў. Гэта календары насценныя, адрыўныя і маленькія кішэннага фармату. Календары не толькі ўпрыгожваюць наш побыт, але і дапамагаюць сваімі звесткамі. Але хто ж і калі вынайшаў каляндар?*

Рэч гэтая вядома са старажытнага Рыма. Тады календарамі называліся кнігі, у якіх крэдытоны запісвалі адсоткі, якія ўносіліся штомесяц у дні календаў (назва першага дня месяца). І толькі праз стагоддзі ў календарах з'явіліся дні нараджэння імператара і дзяржаўныя святы.

На тэрыторыі нашай краіны ў 1708 годзе выйшла невялікае выданне "Каляндар ці каляндар хрысціянскі па старым стылі ці вылічэнню на лета 1709 г.", у якім друкаваліся артыкулы пра зацьменні Сонца, пра поры года, пра вайну і мір, пра здароўе і хваробы.

З 1770 года выдаюцца "звычайныя, гістарычныя, геаграфічныя і календары з навучаннямі". Прычым, кожны каляндар належаў пэўнаму саслоўю – сялянам, гандлярам, паляўнічым, святарам, лекарам.

Вельмі часта каляндар быў адзінаю кнігай, якую чыталі ўсёй сям'ёй круглы год. З дапамогай гэтай рэчы адны вучыліся чытаць, іншыя атрымлівалі мінімальныя веды. А ў 1855 годзе ўпершыню быў выпушчаны кішэнны каляндар.

Асабліва я адзначыў бы каляндар "Наш родны край", які штогод выпускае выдавецтва "Беларусь", бо ў ім змешчаныя матэрыялы пра нашу краіну, яе гісторыю, культуру, знакамітых людзей.

***Міхась Пучыла***

# Крыжаванка

## *складзена па матэрыялах гэтага нумара*

**Па гарызанталі:** 1 – Герой Савецкага Саюза з Барысава; 2 – былы кінатэатр у Барысаве; 3 – вёска на Барысаўшчыне; 4 – вёска на Барысаўшчыне; 5 – манастыр, які раней існаваў у Барысаве; 6 – вуліца ў Барысаве; 7 – вёска на Барысаўшчыне; 8 – адзін з аўтараў кнігі пра Барысаў пачатку XX ст.; 9 – тутэйшая журналістка; 10 – былая вёска; 11 – тутэйшая паэтка; 12 – мікрараён у Барысаве; 13 – паэт, які нарадзіўся ў Барысаве; 14 – былая праваслаўная царква ў Барысаве; 15 – завулак у Барысаве.




**Адказы на крыжаванку**, што змешчана ў "ГБ" №1(214): 1 – Саборная; 2 – Каждан; 3 – Гігант; 4 – Трубяцкога; 5 – Слабодка; 6 – Урыцкага; 7 – Турэмная; 8 – Стаін; 9 – Прывакзальная; 10 – Бярэзіна; 11 – Юльеўская; 12 – Рашкоўскі; 13 – Вяляцічы, 14 – Дзяржынскага, 15 – Менская, 16 – Вікторыя.



ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Рэдакцыйная рада:
**Белы Іван Юр'евіч,**
**Мацельскі Міхась Альфрэдавіч** (заснавальнік, рэдактар і выдавец),
**Пучыла Міхась Канстанцінавіч,**
**Шміт Таццяна Георгіеўна** (нам. рэдактара).

Тэл/факс 8(0177)75-32-77,
Тэл. 8(0177)93-56-86,
8(029)615-32-77 (Velcom),
8(033)632-41-98 (МТС).
e-mail: gomanbar@tut.by
Юрыдычны адрас: г. Барысаў, б-р Камарова, 22-66.

**Наклад 299 асобнікаў**

**Падпісана ў друк**
**8.00 31.01.2017 г.**

**Замова № 800**
**Друкарня імя 1-га Мая**
**г. Барысаў, вул. Будаўнікоў, 33.**

Газета надрукавана з гатовых дыяпазітываў заказчыка.

ISSN 2074-0573




***Адрас для пісьмаў:***
***а/с 43, Барысаў-1,***
***222511, Беларусь***